Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 38 (4736) 27 верасня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павітаў удзельнікаў VIII Форуму творчай і навуковай інтэлігенцыі краін СНД, які праходзіў у Мінску з 23 па 26 верасня. «За сваю гісторыю форум стаў значным фактарам развіцця міждзяржаўных адносін у гуманітарнай сферы. Сустрэчы дзеячаў навукі, культуры і адукацыі краін СНД садзейнічаюць умацаванню братняга адзінства нашых народаў», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы ў прывітанні.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі з 85-годдзем з дня заснавання. «Гісторыя вашага аркестра — адна з яркіх старонак у культурным летапісе Беларусі», — падкрэслена ў віншаванні. «Няхай і далей ваш творчы лёс будзе плённым і цікавым, насычаным новымі яркімі праектамі і радаснымі сустрэчамі з удзячнай публікай», — пажадаў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з 75-годдзем калектыў Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек. «На працягу ўсёй сваёй гісторыі тэатр годна выконвае ганаровую місію маральнага і эстэтычнага выхавання пакаленняў, паспяхова прадстаўляючы лепшыя ўзоры свайго цудоўнага мастацтва ў Беларусі і за мяжой», — гаворыцца ў віншаванні. «Калектыў нязменна дэманструе багацце рэпертуару, высокі ўзровень акцёрскага і рэжысёрскага майстэрства, робіць значны ўнёсак у развіццё фестывальнага руху», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Лідзію Федасееву-Шукшыну з юбілеем. «У Беларусі шматлікія паклоннікі добра ведаюць і цэняць вашу творчасць і шматгранную грамадскую дзейнасць, якая садзейнічае ўмацаванню дружбы і культурнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі», — адзначана ў віншаванні.

✔ У Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці працуе выстаўка падарункаў Прэзідэнту і кіраўніцтву Беларусі ад замежных краін. Усяго ў экспазіцыю ўключаныя падарункі ад 12 дзяржаў, сярод якіх — Расія, Украіна, ЗША, Інданезія, Сербія, В'етнам. Знаёмства з выстаўкай паказвае, што Беларусь — актыўны ўдзельнік практычна ўсіх буйных глабальных працэсаў. Экспазіцыя будзе адкрыта да 14 кастрычніка.

✔ Прэзентацыя мультымедыйнай праграмы «Вызваленне Беларусі. Дзень за днём: 23 верасня 1943 — 28 ліпеня 1944 гг.» адбылася ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны падчас сустрэчы ветэранаў са школьнікамі. Пры дапамозе мультымедыйнай карты, якую ў хуткім часе можна будзе ўбачыць на вялікім экране ў фае музея, кожны наведвальнік зможа прасачыць храналогію вызвалення гарадоў і вёсак. У праект уключаныя і фотадакументальныя матэрыялы з фонду музея, якія датычаць падзей і асоб — непасрэдных удзельнікаў вызвалення Беларусі.

✔ Дні кітайскага кіно пройдуць у мінскім кінатэатры «Цэнтральны» з 30 верасня па 2 кастрычніка. У ліку арганізатараў — пасольства Кітая ў Беларусі, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ. Адкрые паказ драма «Рай акіяна» (2010). Усе кінастужкі, якія прапануюцца гледачу, будуць дэманстравацца на мове арыгінала з рускімі субцітрамі.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА

















# Сяргею Грахоўскаму — 100 гадоў



Гэты год — юбілейны для Сяргея Іванавіча Грахоўскага. Ён нарадзіўся 25 верасня 1913 г., а памёр на 90-м годзе жыцця, 11 снежня 2002 г. Да апошніх дзён працаваў, пісаў, хадайнічаў, шукаў справядлівасці, турбаваўся, лічыў неабходным расказаць пра тое, што ведаў, перажыў. Талент, эрудыцыя, клопат пра лёс радзімы былі яго сутнасцю.

Апошняя прыжыццёвая публікацыя вершаў датуецца 30 жніўня 2002 года. Рыхтуючы для газет і часопісаў публікацыі яго невядомых твораў, мне давялося працаваць у Музеі-архіве літаратуры і мастацтва, дзе захавана вялікая літаратурная спадчына пісьменніка. Уразілі яго грунтоўныя публіцыстычныя рэчы пра «Полымя», «ЛіМ» ды іншыя горача ім паважаныя і любімыя з маладосці выданні.

Чытаю навагоднее віншаванне «ЛіМу», напісанае недзе на пачатку 90-х, і бачу, што гэта не проста дзяжурны, «датны» допіс, а грунтоўны, хоць і вельмі сціслы, аналіз работы любімай газеты і прапановы па паглыбленні яе якасці. Не ведаю, ці публікавалася гэтае віншаванне ў свой час, але нагадаць хаця б абзац-другі, мне здаецца, варта.

Літаратары змогуць параўнаць, што змянілася за апошнія 20 год. Можа, парады старога аўтара актуальныя і сёння?

**Таццяна ГРАХОЎСКАЯ,
фота з асабістага архіва**

*«Што б хацелася пажадаць рэдакцыі на наступны год? Што хачу бачыць на старонках такога неабходнага нашай культуры і літаратуры выдання?*

*Даўно загнаная ў пастку беларуская літаратура, каб знайсці выйсце да шырокага чытача, патрабуе пастаяннай інфармацыі ў рэспубліканскім друку, і ў першую чаргу ў «ЛіМе», пра выданне новых кніг беларускіх пісьменнікаў, пра змест з шырокай анатацыяй новых нумароў часопісаў. «ЛіМ» павінен стаць компасам і барометрам літаратурнага жыцця і творчага працэсу, прапагандыстам значных здабыткаў нашай літаратуры.*

*Кожны год у нашых выдавецтвах выходзяць сотні новых кніг, а рэцэнзуюцца выпадковыя адзінкі, пераважна аднымі і тымі ж не надта высокага класа рэцэнзентамі. Астатняя маса кніжнай прадукцыі для чытача застаецца неразгаданым інкогніта. У спісе Саюза пісьменнікаў лічыцца 48 прафесійных крытыкаў. Большасць з іх за апошнія гады не надрукавала ні радка. А колькі ў нас літаратуразнаўцаў у Акадэміі навук, у трох універсітэтах, на філфаках педінстытутаў! Калі рэдакцыя хоць частку іх аб'яднае вакол аддзела крытыкі, будзе ўважліва сачыць за навінкамі літаратуры і арыентаваць на іх свой крытычны аўтарскі актыў, «ЛіМ» стане не толькі незвычайным люстрам літаратурнага працэсу, а прапагандыстам і дарадцам чытача».*

**Знойдзенае ў архівах апавяданне Сяргея Грахоўскага чытайце на стар. 4.** ▶

# Сугучча ідэй, садружнасць сэрцаў

**VIII Форум творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў-удзельніц СНД «2013 год — год экалагічнай культуры і аховы навакольнага асяроддзя ў дзяржавах-удзельніцах СНД» прайшоў у Мінску. Яго арганізатарамі выступілі Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц Садружнасці, беларускі ўрад пры падтрымцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Выканаўчага камітэта СНД, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта. У мерапрыемствах, што прайшлі ў межах форуму, узялі ўдзел дэлегацыі з 10 дзяржаў Садружнасці: прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі ў сферах адукацыі, культуры, аховы здароўя, экалогіі і прыродаахоўнай дзейнасці, сродкаў масавай інфармацыі, гуманітарнай дзейнасці.**


Фота Кастуся Дробава

*Падчас адкрыцця форуму.*


Фота Кастуся Дробава

*Знаёмства з кніжнай выстаўкай.*


Фота Кастуся Дробава

*Дыялогі ў кулуарах.*

Падчас пленарнага і секцыйных пасяджэнняў форуму ўздымаліся актуальныя пытанні супрацоўніцтва ў галіне развіцця турызму, распрацоўкі канцэпцыі экалагічнага выхавання і адукацыі, фарміравання агульнай экалагічнай культуры насельніцтва. Натуральна, не застаўся без увагі і культурны, кніжны аспект справы. Так, працавала секцыя «Сродкі масавай інфармацыі, кнігавыданне ў кантэксце фарміравання экалагічнай культуры і гуманітарнага супрацоўніцтва». Галоўныя рэдактары вядучых СМІ дзяржаў-удзельніц СНД, кнігавыдаўцы, пісьменнікі абмеркавалі пытанні фарміравання экалагічнай культуры, адметнасці прадстаўлення матэрыялаў на экалагічную тэматыку ў розных відах СМІ. Менавіта сёлета, калі экалагічнай культуры прысвечаны цэлы год у працы СНД, у гэтым кірунку можна зрабіць шмат карыснага.

У межах секцыі прайшла тэматычная панэль «Літаратура ў цывілізацыйнай парадыгме еўразійскай прасторы». Творцы закранулі пытанні ўплыву пісьменніка на грамадскую думку, а ў сувязі з тэматыкай года ў СНД спыніліся на адметнасцях адлюстравання праблем захавання навакольнага асяроддзя ў літаратуры, выказалі заклапочанасць агульнай тэндэнцыяй змяншэння тыражоў кніг, «тоўстых» літаратурна-мастацкіх часопісаў і ў цэлым зніжэннем цікавасці грамадства да літаратуры. Натуральна, менавіта тут удзельнікі абмеркавання шмат увагі звярнулі на сумесныя творчыя праекты, а таксама на пераклад. І гэта заканамерна: узаемнае знаёмства з літаратурамі краін СНД, стварэнне бібліятэк і кнігазбораў, дзе былі б прадстаўлены кнігі лепшых пісьменнікаў дзяржаў Садружнасці, можа стаць добрым мостам для наладжвання больш шчыльных і актыўных творчых кантактаў. Асаблівая ўвага была звернута на серыю кніг «Сугучча сэрцаў», якая выходзіць у Выдавецкім доме «Звязда» і прадстаўляе літаратуры краін СНД пасля 1991 года.

Першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч зазначыла:

— Тэма кнігавыдання не так часта гучала ў кантэксце ранейшых форумаў творчай і навуковай інтэлігенцыі краін-удзельніц СНД, але сёлета мы адчулі, што ў гэтым ёсць патрэба. Больш за тое, восенню мінулага года я брала ўдзел у пасяджэнні Міждзяржаўнага савета па друку ў Ерэване, дзе абмяркоўваліся праекты, якія маглі б быць цікавымі ў прасторы Садружнасці. Менавіта тады нарадзілася ідэя вось такой унікальнай серыі «Сугучча сэрцаў». Ад ідэі да рэалізацыі прайшло не так шмат часу. Праект ужо на завяршальнай стадыі. Вельмі хацелася б, каб кнігі серыі былі ў кожнай краіне СНД. Варта падкрэсліць значнасць гэтай «ніткі», што звязвае нашы дзяржавы. І ў цэлым трэба шмат увагі надаваць гуманітарнай састаўляючай міждзяржаўнага супрацоўніцтва — літаратуры, кнігам.

Укладальнік кніг серыі «Сугучча сэрцаў», галоўны рэдактар часопіса «Нёман», пісьменнік Алесь Бадак заўважыў:

— Калі мы пачалі рэалізоўваць гэты праект, то я не думаў, што будзе так складана. Ёсць краіны СНД, дзе за 20 год амаль нічога не перакладалася на рускую мову. Была і яшчэ адна цяжкасць, звязаная са зніжэннем якасці перакладу: творы класікаў выдатна перастворany па-руску, а калі справа датычыла маладых аўтараў, то нам даводзілася працаваць амаль з падрадкоўнікамі. Думаецца, праект змог з'явіцца менавіта ў гэты час у многім дзякуючы інтэрнэту. Яшчэ 10 — 15 год таму наўрад ці мы ўзяліся б за яго. Больш за тое, менавіта інфармацыйныя тэхналогіі спрыяюць стварэнню кніг і часопісаў у новым фармаце — своеасаблівых «жывых» выданняў з тэкстамі, ролікамі, відэазваротам аўтара. Менавіта такія праекты сёння распрацоўваюцца. Думаю, хутка мы іх пабачым.

Падчас форуму адбылося і актыўнае абмеркаванне пытанняў экалагічнай культуры насельніцтва праз асвятленне гэтай тэматыкі ў СМІ. На пасяджэнні адпаведнай секцыі неаднаразова адзначалася важнасць фарміравання і развіцця экалагічнай культуры нацыі сродкамі журналістыкі. Гэтага можна дасягнуць у першую чаргу праз адпаведную адукацыю журналістаў, якія працуюць у СМІ. А экалагічная тэматыка павінна прысутнічаць не толькі ў тэматычных, нішавых выданнях, але і ў грамадска-палітычнай агульнанацыянальнай прэсе, якая шырока распаўсюджваецца ў краіне.

Гэта не значыць, што ўдзельнікі пасяджэння рэкамендавалі б адмовіцца ад тэмы аховы навакольнага асяроддзя ў «тоўстых» часопісах. Справа ў тым, што ў культуры краін СНД іх не заўсёды ўспрымалі як літаратурныя часопісы. Перш за ўсё яны былі выданнямі, якія адказваюць на запыт часу, дзе выказваюцца ідэі, што «лунаюць у паветры». Так, варта памятаць, што расійская, беларуская, украінская журналістыка вырасла з публіцыстыкі, якая адпачатку была адной з форм літаратурнай творчасці. Тоўстыя часопісы тут — бацькі газет. Таму не варта забывацца на гэтую спадчыну і традыцыю, калі журналісты пачыналі з інтэлектуальных дыскусій і толькі потым пераходзілі да аператыўнага асвятлення фактаў.

Старшыня Беларускага саюза журналістаў Анатоль Лемяшонак прапанаваў супрацоўніцтва на ўзроўні журналісцкіх арганізацый краін СНД: абмен лепшымі матэрыяламі з розных краін, публікацыя іх у СМІ дзяржаў Садружнасці. І сапраўды, экалагічныя праблемы не маюць межаў, яны актуальныя для ўсіх народаў. Таму для фарміравання экалагічнай свядомасці журналістаў і аўдыторыі важна выяўляць сацыяльназначныя тэмы, падтрымліваць агульныя журналісцкія, медыйныя праекты.

Важна памятаць і пра экалагічнае выхаванне дзяцей і моладзі. Тут могуць дапамагчы тэматычныя, спецыялізаваныя выданні. У якасці прыкладу ўдзельнікам дыскусіі быў прадстаўлены дзіцячы экалагічны часопіс «Роднічок», які вось ужо некалькі гадоў выдаецца ва Узбекістане. На яго старонках у простай і даступнай форме — у выглядзе казкі, верша, малюнка, комікса — распавядаецца пра актуальныя праблемы экалогіі. Менавіта такое выданне можа стаць добрым дарадцам і настаўнікам, і бацькам.

Першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч у сваім заключным слове падкрэсліла:

— Беларусь можа стаць выдатным цэнтрам інтэграцыі ў галіне культуры, літаратуры для ўсіх дзяржаў-удзельніц СНД. Так, на базе Выдавецкага дома «Звязда» ўтвараецца адметная інтэрнэт-пляцоўка, яна можа выдатна працаваць, калі ўсім будзе цікава, калі кожны будзе там знаходзіць нешта карыснае. Сёння трэба думаць пра будучыню. А на базе лагера «Зубраня» на наступны год плануецца правядзенне вялікага форуму дзіцячых пісьменнікаў. Калі мы кажам, што дзеці павінны чытаць, то павінны думаць і пра тое, якую літаратуру мы ім прапануем, што для іх пішам. Гэтая праца будзе не толькі садзейнічаць інтэграцыйным працэсам, але і выхоўваць нас, беларусаў. Ёсць і ідэя падтрымкі маладых літаратараў. Думаю, у гэтым нам дапаможа Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, з якім плённа працуем у многіх кірунках. Калі мы не можам даць маладому таленавітаму творцу тыраж яго кнігі ў 100 тысяч асобнікаў, то прывязці маладых аўтараў у Беларусь ці ў іншую краіну СНД і паказаць, як сёння жыве і развіваецца краіна, — цалкам рэальная задача.

Лілія Станіславаўна падкрэсліла значнасць правядзення форуму ў нашай краіне, бо кантакты, устаноўленыя падчас яго працы, могуць стаць трывалымі сувязямі для далейшага плённага супрацоўніцтва ў гуманітарнай сферы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Шматаблічны Колас

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі, прысвечанай ушанаванню вобраза паэта ў творчасці беларускіх скульптараў.

Выстаўка — з'ява ўнікальная. Упершыню ў межах акцыі «Адкрытыя фонды» разам прадстаўлены творы мастацтва з калекцыі «скульптура». Экспазіцыю складае каля 19 адзінак. Гэта работы выдатных скульптараў: Аляксея Глебава, Андрэя Заспіцкага, Уладзіміра Слінчанкі, Канстанціна Селіханава, Льва і Марка Раберманаў і інш. Кожны экспанат уяўляе сабой сапраўдную каштоўнасць, асабліва — творы, зробленыя з натуры.

Два экспанаты супрацоўнікі музея вылучаюць асобна. Адзін з іх — прыжыццёвы бюст пісьменніка, выкананы Заірам Азгурам, вядомым майстрам, аўтарам скульптурнай кампазіцыі на плошчы Якуба Коласа, сябрам пісьменніка. Іх знаёмства адбылося, калі Заір Ісакавіч, студэнт Віцебскага мастацкага тэхнікума, атрымаў адказнае заданне — зрабіць скульптуру народнага паэта. З гэтай першай сустрэчы пачалося сяброўства, якое доўжылася ўсё жыццё.

Другі экспанат, які ўяўляе сабой вялікую каштоўнасць, быў падараваны паэту выхаванцамі Чавускага дзіцячага дома. Аўтарам драўлянай скульптуры з'яўляецца В. Валкавы. Якуб Колас быў чалавекам шчырым, клапатлівым, дапамагаў дзецям, якія засталіся без бацькоў. Дзеці вырашылі аддзячыць паэту і зрабілі яму падарунак, які пазней заўсёды стаяў на рабочым стале пісьменніка.

Наведвальнікі выстаўкі атрымалі магчымасць задаць пытанні знакамітым беларускім творцам — Алесю Шатэрніку, Івану Міско, Уладзіміру Уроднічу, Аляксандру Батвінёнку. Размаўлялі пра тое, што скульптура, бадай, адзін з самых складаных відаў мастацтва. Паказаць характар чалавека, тое, якім ён быў, толькі праз постаць — высокае ўменне.

На выстаўцы прысутнічалі члены сям'і паэта — малодшы сын Міхась Міцкевіч і праўнучка Васіліна Міцкевіч, галоўная захавальніца фондаў музея, якая выказала спадзяванне, што беларускія мастакі і скульптары часцей будуць звяртацца да тэмы жыцця і творчасці Якуба Коласа.



Фота Кастуся Дробава

*Скульптар Іван Міско знаёміцца з выстаўкай.*

Увазе гасцей была прадстаўлена прэзентацыя, прысвечаная мастацка-мемарыяльнай кампазіцыі «Шлях Коласа» на малой радзіме паэта. Цягам двух гадоў у стварэнні кампазіцыі ўдзельнічалі таленавітыя народныя майстры. Цяпер яна складае больш як 40 драўляных скульптур, што стаяць на ўзбочцы дарогі. Гэта вобразы герояў коласаўскіх твораў. Дарэчы, з імі звязана незвычайная гісторыя. Аднойчы нарадыўся страшэнны вецер, але злая стыхія, якая паваліла нават тоўстыя дрэвы, скульптуры пашкадавала…

Апошнія гады свайго жыцця пісьменнік правёў у Мінску. Супрацоўнікі музея ўпэўнены, што працягнуць «Шлях Коласа» ў сталіцу трэба абавязкова.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Слуцкі пояс як брэнд

Слуцкія паясы не проста мастацкія вырабы — гістарычны сімвал Беларусі, нацыянальны набытак, які вырашана захаваць на самым высокім узроўні.

Згодна з Дзяржаўнай праграмай адраджэння тэхналогій і традыцый вырабу слуцкіх паясоў і развіцця вытворчасці нацыянальнай сувенірнай прадукцыі «Слуцкія паясы» на 2012 — 2015 гады, з мэтай далейшага развіцця і прапаганды традыцыйнага мастацтва ўпершыню ў Слуцку прайшло абласное свята рамёстваў «Слуцкія паясы».

Каля 500 майстроў з усёй Міншчыны прадставілі свае дасягненні ў развіцці і захаванні нашай спадчыны. Як упэўніліся госці старажытнага горада, палітра традыцыйных рамёстваў у сталічным рэгіёне багатая і разнастайная: кожны майстар — унікальны, кожны твор — сапраўдны скарб. Не дзіўна, што ўдзельнікі фэсту з задавальненнем знаёміліся з сапраўднымі брэндамі Мінскай вобласці: капыльскімі і старадарожскімі ручнікамі, лагойскай і івянецкай керамікай, клецкай і маладзечанскай лазой, вілейскай і мядзельскай разьбой па дрэве.

А на пляцоўцы каля фабрыкі мастацкіх вырабаў «Слуцкія паясы» праводзіліся майстар-класы па пляценні і ткацтве



*Помнік слуцкаму ткачу.*

паясоў. Шматлікія гледачы з захапленнем і гонарам назіралі за спрытнымі рухамі майстроў.

— У межах свята рамёстваў праходзіў ужо традыцыйны конкурс «Беларуская лялька», падчас якога мы ўбачылі, як звычайная лялька ператвараецца ў сучасны твор мастацтва, адметны нацыянальны сувенір, — зазначыў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута.

У гэты ж дзень прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Беларускія паясы: гістарычныя шляхі развіцця і сучасная практыка», дзе вялася гутарка пра значэнне паясоў у культуры славянскіх народаў, у сучаснай абрадавай, сцэнічнай, прадстаўнічай, сувенірнай практыцы, у вусна-паэтычнай, мастацкай і літаратурнай творчасці.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

# Адвечнае спаборніцтва

28 верасня Вялікі тэатр Беларусі запрашае ў Камерную залу імя Александроўскай на прэм'еру аднаактовых опер «Дырэктар тэатра» Вольфганга Амадэя Моцарта і «Спачатку музыка, потым словы» Антоніа Сальеры. Па задумцы пастаноўшчыкаў кампазітары зноў сыдуцца ў адвечным творчым спаборніцтве.

Пра ўзаемную непрыязь знакамітых кампазітараў Моцарта і Сальеры ходзяць легенды. Мы памятаем, што ў пушкінскай «маленькай трагедыі» доля геніяльнага Моцарта — смерць ад рук зайздроснага Сальеры. Але гэта толькі творчая здагадка паэта. У рэальным жыцці ўсё было інакш, значна больш празаічна. На самай справе кожны з кампазітараў быў вядомы і прызнаны сучаснікамі, а Сальеры нават у большай ступені, чым Моцарт, карыстаўся аўтарытэтам у музычным свеце. Зразумела, кампазітары спаборнічалі паміж сабой, але кожны з іх прызнаваў творчасць іншага, спаборніцтва ішло хутчэй за становішча пры двары. Аднак гэта не перашкаджала ім уступаць у жартоўныя музычныя спрэчкі. Так і з'явіліся на свет дзве бліскучыя камічныя оперы — «Дырэктар тэатра» і «Спачатку музыка, потым словы». У 1786 годзе імператар Святой Рымскай імперыі Іосіф ІІ вырашыў наладзіць музычнае спаборніцтва: прапанаваў двум лепшым кампазітарам Вены — Моцарту і Сальеры — напісаць оперы на камічны сюжэт, звязаны з закулісным светам тэатра. Тады перамог Антоніа Сальеры: яго оперу «Спачатку музыка, потым словы» захопленая публіка сустрэла апладысментамі, аднак у гісторыю музыкі як геніяльны кампазітар увайшоў Вольфганг Амадэй Моцарт…

Беларуская пастановачная група — дырыжор Іван Касцяхін і рэжысёр Наталля Кузьмянкова — вырашыла зноў вярнуцца да таго даўняга гістарычнага факта і разыграць на сцэне музычнае спаборніцтва паміж Сальеры і Моцартам. Аднак гэтым разам яго вынік зусім не абавязкова будзе такім, як раней.

— Мы аб'ядноўваем два спектаклі агульнай ідэяй, — распавёў дырыжор Іван Касцяхін. — Мастацтва — гэта не проста спаборніцтва паміж таленавітымі людзьмі, а садружнасць творчых асоб, паразуменне паміж імі, узаемадапамога і падтрымка. У нас не будзе вызначанага зыходу музычнага спаборніцтва, які быў зафіксаваны ў рэальным жыцці. Мы зробім адкрыты фінал і прадставім магчымасць публіцы самой вылучыць пераможцу. Ёсць і іншыя цікавыя рэжысёрскія хады, але пра іх гледачы даведаюцца толькі на самім спектаклі...

Такім чынам, лепшага вылучыць публіка. Хто стане пераможцам музычнага спаборніцтва — Моцарт або Сальеры — вырашаеце вы. Не прапусціце магчымасць умяшацца ў ход гісторыі і назваць свайго фаварыта!

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

## Фестывалі

# Літаратурныя берагі славянскай дружбы

Міжнародны літаратурны фестываль «Берагі дружбы» адбыўся ў горадзе Таганрогу (Расія, Растоўская вобласць).

Разам з гомельскімі паэтамі Евай Дударгай, Генадзем Говарам, Тамарай Кручэнка, Ліліяй Вялічка, Галінай Рагавой, Ганнай Атрошчанка, Галінай Гузянковай і Нінай Шкляравай мне пашчасціла паўдзельнічаць у гэтым фэсце. Нагодай для далёкай творчай вандроўкі стала плённае супрацоўніцтва з літаратурным аб'яднаннем «Чайка» (г. Таганрог) і выданне ў гэтым горадзе кніг перакладаў «З адной калыскі», «Слово за словом», «Славянской боли кружева». На працягу некалькіх месяцаў паэты Беларусі перакладалі вершы расійскіх калег на беларускую мову, а тыя працавалі ў тым жа кірунку з нашымі вершаванымі радкамі.

І вось нарэшце дзякуючы кіраўніку праекта «Трохмоўная дружба» паэту Леаніду Северу, а таксама Адміністрацыі горада Таганрога і «Данскому дарожнаму радыё» мы змаглі асабіста пазнаёміцца з паэтамі, вершамі якіх «жылі» на працягу апошняга часу: Аленай Арэнт, Людмілай Сухановай, Таццянай Валакіціной, Вольгай Сафроновай, Яўгенам Астапавым, Уладзімірам Дзіклавым, Галінай Астапавай, Віктарам Лазаўскім, Яўгенам Міўсавым, Аляксеем Паліем і інш.

Фестываль пачаўся з «круглага стала», дзе шмат гаварылася пра творчыя стасункі.

— Нас не могуць раз'яднаць ніякія палітычныя працэсы, — зазначыла сакратар праўлення Саюза Пісьменнікаў Расіі Святлана Макарава, — бо мы маем агульныя беды і агульныя перамогі. Няхай тое, што не змаглі зрабіць палітыкі, зробяць паэты!»

Пасля былі сумесныя выступленні беларускіх і рускіх творцаў на розных пляцоўках горада. Фінальны акорд фестывалю — канцэрт у Зялёным тэатры гарадскога парку. Са сцэны гучалі то рускія, то беларускія вершы, віншаванні гораду, што адзначаў чарговыя ўгодкі. Магчыма, фестываль «Берагі дружбы» стане пастаянным месцам сустрэчы для ўдзельнікаў праекта «Трохмоўная дружба».

**Аксана ЯРАШОНАК**

## Абрысы

Дні беларускай культуры праходзяць у юрыдычным каледжы Белдзяржуніверсітэта. Прадугледжаны цыкл мерапрыемстваў, скіраваных на папулярызацыю культурнай спадчыны Беларусі. Сярод іх — лекцыі, прысвечаныя творчасці беларускіх пісьменнікаў, сёлетніх юбіляраў, літаратурныя конкурсы «Лепшае чытанне вершаў на беларускай мове» і «Лепшае сачыненне пра беларускую мову і літаратуру», алімпіяды і віктарыны па творчасці пісьменнікаў. Запланавана сустрэча з паэтам і публіцыстам Яўгенам Хвалеем і выстаўка насценных газет.

Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» і Музычны дом «Класіка» запрашаюць на музычна-тэатральнае прадстаўленне «Вандраванні Радзівіла Сіроткі». Мерапрыемствы будзе праходзіць у незвычайнай інтэрактыўнай форме, калі гледачы далучаюцца да дзейства, якое ўключае ў сабе канцэртную частку і займанальны тэатралізаваны аповед пра дасягненні Мікалая Радзівіла Сіроткі, іх гістарычнае значэнне. Гэта своеасаблівае вандраванне ў часе, незвычайная экскурсія ў нашу гісторыю, адрасаваная ўсім, хто імкнецца спазнаваць новае, знаходзіць цікавыя факты з мінулага.

Клуб дакументальнага кіно, які дзейнічае пры сталічным кінатэатры «Цэнтральны», прапанаваў гледачам дакументальную стужку «Вандроўкі пана Кандратовіча» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Яўген Сяцько, аператар — Станіслаў Смірноў). Гэта фільм пра беларускага польскамоўнага паэта XIX ст. Уладзіслава Сыракомлю. Яго асоба — знакавая ў беларускай гісторыі XIX ст. Ён быў не толькі паэтам, але і выдатным краязнаўцам, прыкметнай постаццю ў культурным асяродку таго часу. У карціне адлюстраваны мясціны, апісаныя Кандратовічам.

Дванаццаты штогадовы рэспубліканскі конкурс маладых эстрадных выканаўцаў «Белазаўскі акорд» пройдзе ў Жодзіне 28 і 29 верасня. Мэта мерапрыемства — прапаганда нацыянальнага мастацтва: у кожнага ўдзельніка ёсць песня на роднай мове. Журы — Анатоль Ярмоленка, Эдуард Зарыцкі, Уладзімір Карызна, Віктар Бабарыкін, Аляксандра Кірсанава — вызначыць пераможцаў, акампанаваць якім будзе Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь.

# Па выкрасленых адрасах

## (незавершанае апавяданне з архіва)



*У бібліятэцы Дома літаратараў, 1983 г.*

**Не ведаю ці дапішу,**
**Але сагрэю трошачкі душу.**

Я павольна іду па вуліцах, праспектах, плошчах, парках і скверах другога, а можа і трэцяга Мінска. Мне насустрач бягуць, спяшаюцца, павольна шпацыруюць, абмінаюць, часам штурхаюць, маладыя дзелавікі. Здаецца, тыя ж спадарожнікі маёй маладосці, толькі апрануты раскашней, дзяўчаты спаборнічаюць «макіяжам», прычоскамі, пухлымі скуранымі торбамі на шлейках цераз плячо, у манто да пят. Здаецца, што ўсё тыя ж юныя, маладыя, сярэдняга веку людзі і згарбелыя дзядкі і бабулі, што даношваюць вопраткі з даўнейшай пары. Толькі натоўп гусцей, як тады. І дзецці, здаецца, не выраслі, толькі свавольней і стракацей апранутыя, як пяцьдзесят-шэсцьдзесят гадоў таму, як у першым маім жыцці ў Мінску.

У маёй памяці, у маім уяўленні ёсць два Мінска: колішні губернскі гарадок, ціхі, утульны, зялёны, у садах, кветніках і гародчыках, разважлівы і нетаропкі. Я яго ўспамінаю такім — драўляным, з гонтавымі і замшэлымі дахамі, з зачыненымі нанач аканіцамі, з шызымі дымкамі з комінаў, праменьчыкамі святла праз шчыліны рассохлых аканіц. У кожным доме паліліся печы, грубкі, ляжанкі. Ад таго першага Мінска засталіся лічаныя напамінкі колішняга горада. Давайце ўспомнім і палічым іх. На колішняй Захар'еўскай, а потым Савецкай вуліцы, праспекце Сталіна і Леніна, стаіць, як і стаяў, тройчы перароблены на маёй памяці Чырвоны касцёл Алены і Сымона. Вы мяне злавіце на слове: «А дзе ж быў Дом Урада?» У тым маім першым Мінску яго яшчэ не было. Добрая сотня грабароў рыдлёўкамі капалі глыбачэнны катлаван, на конных грабарках пясок, грунт і гліну адвозілі далёка за горад. Пра бульдозеры, экскаватары, грузавыя аўтамабілі і не чулі яшчэ тады. У глыбіню закладалі трывалы падмурак. Цяпер пад Домам дзесяткі самых розных майстэрняў і службаў, пракладзены сотні кіламетраў труб і правадоў.

Пра пад'ёмныя краны і не чулі: з паверха на паверх па рыштаваннях, як мурашкі па дрэве, узнікаў жывы канвеер — грузчыкі на так званых козах, на спінах, адзін за адным усё вышэй і вышэй неслі цагліны. Паражняком збягалі пад пагрузку. Над усім горадам узвышаўся трывалы, шэры гмах у архітэктурным (кубічным) стылі першага савецкага дзесяцігоддзя.

Насупраць яго ўзвышаўся пяціпавярховы, шматкватэрны дом дарэвалюцыйнай забудовы, у савецкі час названы «Домам металістаў». У ім былі аптэка, ювелірны і харчовы магазіны. Яго ўзарвалі ў пачатку 60-х, каб пашырыць плошчу насупраць Дома Урада.

З маіх даваенных сучаснікаў першага Мінска засталіся Тэатр оперы і балета, Дом друку, некалькі карпусоў Першай клінічнай бальніцы, адноўленыя і рэстаўрыраваныя кафедральны касцёл на плошчы Волі, на Залатой горцы — касцёл Святога Роха з падвоенымі абавязкамі — удзень ідзе набажэнства, увечары канцэрты арганнай і сімфанічнай музыкі. Усе віхуры і выбухі вытрываў будынак дарэвалюцыйнага губернскага тэатра, цяпер Акадэмічнага імя Янкі Купалы. Было яшчэ некалькі цагляных дамоў (сінагога — Рускі драматычны тэатр, некалькі карпусоў колішняга універсітэцкага гарадка), — вось бадай, і ўсё, што засталося ў маёй памяці з далёкай даваеннай пары.

Быў яшчэ прамежкавы трэці Мінск — руіны, горы друзу, папялішчы. Абапал цяперашняга праспекта Скарыны зелянелі бульбоўнікам, абгароджаныя абгарэлымі жалезнымі ложкамі, градкі. Каля ацалелага колішняга трамвайнага парку, за квартал ад плошчы Перамогі красавала жыта і хаваліся зайцы.

Праз дзесяць гадоў я вярнуўся ў той зруйнаваны Мінск восенню 1946 года і з часовага вакзала, праз куродым ад цаглянага пылу, убачыў Дом друку і хвоі Парка Чалюскінцаў.

Не было горада, не засталося і знаёмых. Я блукаў, як пагарэлец, сярод папялішчаў маёй маладосці.



*Сяргей Грахоўскі з сям'ёй, 1960-я гады.*



*З А. Александровічам, 1967 г.*

У 1949 годзе яшчэ на сем гадоў разлучылі мяне з любімым горадам, дзе некалі было столькі сяброў, знаёмых, блізкіх і каханых, такія спадзяванні і ружовыя планы грэлі душы і мацавалі веру ў шчаслівае творчае будучае.

У 1956 годзе я сустрэўся з новым, прыгожым, зусім незнаёмым Мінскам. Колішнія вузенькія вуліцы рассунуліся і далі месца шырокім асфальтаваным праспектам, аблямаваным зялёнымі ліпамі. З'явіліся тры першыя тралейбусныя маршруты, а на вуліцы Энгельса застаўся двухпавярховы беленькі асабнячок — Дом пісьменнікаў Беларусі. Я ведаў, што з юнацкіх гадоў амаль нікога не засталося з маіх знаёмых і сяброў, адданых творчасці, паэзіі і маладой беларускай прозе.

Я блукаў па новых вуліцах, угледаўся ў незнаёмыя дамы, у постаці і твары зусім незнаёмых людзей. Я адчуваў сябе чужым у чужым горадзе. А следам і насустрач ішлі заклапочаныя і вясёлыя людзі, нібы сучаснікі маёй маладой пары — нібыта тыя і не тыя і зусім незнаёмыя.

Часцей мяне вабіла на вул. Энгельса, да таго беленькага пісьменніцкага дома, але не мог адважыцца зайсці туды; а раптам нехта спытае: «Хто вы, што вам тут трэба?» Я часцей заходзіў да тэатральнага сквера, спыняўся і доўга глядзеў на бюст такога любага і дарагога Купалы, садзіўся на лавачку каля фантана з абнятым хлопчыкам лебедзем. Прытуліў мяне на Калектарнай вуліцы стрыечны брат, хірург Мікалай Бобрык. У 1930 годзе ён ратаваў Купалу, быў частым госцем у яго гасцінным доме, расказваў пра шчодрасць Уладзіславы Францаўны, славутай Купаліхі — цёці Уладзі. Ён мне і сказаў, што ў цокальным памяшканні пісьменніцкага дома часова месціцца музей Купалы. І загадвае ім Уладзіслава Францаўна. Яна ведала мяне, двойчы дапамагала мне пасля вяртання ў Мінск. І я наважыўся пайсці ў музей. Уваход у сутарэнне з шыльдаю «Музей Янкі Купалы» быў з вуліцы. Я ў сібірскіх валёнках, амаль шарачковым паліто і малахаі па некалькіх прыступках увайшоў у вузкія і нізкія дзверы. Гэта было старажытнае сутарэнне з выгінастаю столлю, маленькімі акенцамі, напалову ніжэйшымі за тратуар. У першым пакоі я адразу пазнаў Уладзіславу Францаўну. Яна была ў паліто і хустцы. Ці толькі што прыйшла, або некуды збіралася. Я сказаў толькі: «Добры дзень». Яна азірнулася, адказала і назвала маё імя, падышла, як маці, абняла. «Дзякаваць богу, вярнуўся! А ты ж памажнеў, падужэў. Распранайся. Ого, і лысець пачаў. Ад такой жыткі і скура можа злезці». Яна мяне вадзіла з пакоя ў пакой сутарэння пад Домам пісьменнікаў, паказвала экспанаты, скардзілася, як цяжка знаходзіць рукапісы, кнігі, «Янкавы рэчы». «Музей будуецца там, дзе была наша згарэлая хата. Ад'язджаючы з палаючага Мінска, мы паспелі ўхапіць самыя неабходныя дробязі. Але людзі дапамагаюць».

Закончыўшы агляд, Уладзіслава Францаўна падвяла да кнігі наведвальнікаў. «Вось сядай і перапішы свой верш, прысвечаны Купалу». — «Адкуль вы ведаеце, што ў мяне ёсць такі верш?» — «Сказаў мне Мікола Аўрамчык, што ты яго з Сібіры прыслаў у «Маладосць» і ўжо здадзены ў друк».

Вось для мяне і новая радасць. Добра, што верш запомніўся, і я яго старанна запісаў у кнігу наведвальнікаў. Я пачаў развітвацца. «Не-е, пачакай, яшчэ падымемся наверх». Яна ўжо ведала, што я не маю працы і прытулку.

Мы на другім паверсе зайшлі ў невялічкі пакой адказнага сакратара СПБ. За сталом сядзеў незнаёмы вastranосы прывабны малады чалавек у добрым гарнітуры, пры гальштуку. Каля яго сядзелі і стаялі незнаёмыя людзі, гаманілі адзін з адным пра нейкія свае клопаты.

Уладзіслава Францаўна адразу звярнулася да сакратара: «Міхась Іванавіч, вось толькі што вярнуўся з Сібіры, — яна назвала маё імя і прозвішча, — жыць у яго няма дзе, працы не мае. Дапамажыце хоць на першых парах, пакуль уладкуецца, пажыць у Каралішчавічах».

Зазваніў тэлефон, сакратар зняў трубку: «Калачынскі слухае». Божухна, дык гэта выходзіць той самы Калачынскі, што некалі ў часопісе «Іскры Ільіча» друкаваў і падпісваў вершы: «піянер Міша Калачынскі». Да мяне падышоў, падаў руку светлавалосы і яснавокі, яшчэ малады статны хлопец і прадставіўся — Грыша Бярозкін. Я ўжо ведаў гэтае імя па яго вельмі трапных крытычных артыкулах у «ЛіМе». Ён прызнаўся, што помніць мяне па педінстытуце і кволых юнацкіх публікацыях. Калачынскі ўспомніў мяне па даваенных вершах і казках у тых жа «Іскрах Ільіча», «Чырвонцы», «Маладняку», «Чырвонай» і «Калгаснай» Беларусях. Калачынскі запэўніў, што аформіць мне пуцёўку ў Дом творчасці «Каралішчавічы» і пагаворыць з кіраўнікамі радыёкамітэта, каб узялі мяне на ранейшую работу, бо па рэабілітацыі я меў права на аднаўленне на ранейшай працы.

Што такое Каралішчавічы і дзе яны — я не ўяўляў. Калачынскі сказаў атрымаць пуцёўку ў Літфондзе і ў тры гадзіны дня з рэчамі быць тут. Якія ў мяне рэчы? Пусты мех — адзін смех. Куды скажуць, туды іду, што загадаюць, тое раблю. Бо пакуль што не маю ні кала, ні двара.

Іду ў сваёй сібірскай апранасе, з торбачкаю, у дактыласкапіі ўсіх вакзалаў, набітых пад завязку вагонаў. Цэлы тыдзень мяне трэсла на ўсіх стыках і чыгуначных стрэлках па дарозе з свае цёплае біязінскае хаты ў невядомасць.

Іду па людных вуліцах незнаёмага Мінска, здаецца, сустрэчныя падазрона ўглядаюцца ў мяне, а ўгледжу міліцыянера — і сэрца ёкае недзе пад лыжачкаю. Іду, каб ехаць у Дом творчасці ў нейкія Каралішчавічы. Мабыць, шыкоўная будыніна з такою каралеўскаю назваю.



*З жонкай Валянцінай, пачатак 1980-х гадоў.*

Малады шафёр Толя, мабыць, ужо ведаў, што за франта павязе, і прапанаваў садзіцца ў не надта зграбны малы аўтобусік. У ім ужо сядзела некалькі маладых незнаёмцаў, курылі, жарталі, рагаталі і ўсе гаварылі па-беларуску. За дваццаць гадоў я адвык ад роднай мовы. Думаць думаў па-нашаму, пісаць пісаў як трэба і паслаў некалькі вершаў свайму лагернаму другу Алесю Пальчэўскаму. Яго вызвалілі трохі раней і служыў ён ужо рэдактарам у выдавецтве. Неўзабаве ён адбіў тэлеграму: «Вершы прынятыя ў "Маладосці". Тэрмінова прышлі даведку аб рэабілітацыі».

Пазней ён мне расказаў, што тры мае вершы паказаў Міколу Аўрамчыку. Той ухваліў іх, пайшоў да рэдактара. Асцярожны Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі некалькі разоў перачытаў іх. Ухваліў: «Няхай прышле копію даведкі аб рэабілітацыі. Я Грахоўскага памятаю па рэдакцыі «Чырвонай змены». Пасылаў яму некалі свае першыя апавяданні».

Гаманілі незнаёмыя пісьменнікі, я стараўся маўчаць, каб не спаткнуцца на якім слове, а іх гаворка была мне чужая. Я ўглядаўся ў новыя будоўлі абапал Магілёўскай шашы. За горадам у нізінах яшчэ ляжаў снег з праплешынамі на ўзгорках і зялёнымі плямкамі азіміны. Быў канец адліжнага лютага, а ў Сібіры самы завірушны месяц. Увесь час перад вачамі стаяла мая хата каля самай тайгі, на высокім беразе вузенькай пакручастай крынічнай Біязінкі. Кожную раніцу па насечаных у заледзянелым снезе прыступках з вёдрамі на карамысле я насіў ваду ў свой двор па снежнай траншэі, вышэйшай за мяне. Думалася, як там упраўляецца мая дробная Валянціна, самой ёй не ўзадрацца на гару з вёдрамі. Тут толькі бралася на змрок, а там ужо была глыбокая поўнач. Трывожыўся, што чакае мяне і маю сям'ю, малых дзетак і жончынага аднавокага бацьку, былога шклодува з пенсіяй 40 рублёў на месяц.

Усё круцілася ў галаве, лагчыны, узгоркі і пералескі па дарозе ў тыя загадкавыя Каралішчавічы. Відаць, будзе няблага, раз усватала пісьменніцкая маці — Уладзіслава Францаўна. Вось праскочылі паваротку ў бярозавых прысадах, потым крута звярнулі ўправа на вузкую дарожку ў густым сасняку і бярэзніку. Спыніліся, вось і Дом творчасці. Двухпавярховая будыніна з кругляка, пафарбаванага жоўтаю вохраю. Над ганкам — балкончык з драўлянымі балясамі. Яго падтрымліваюць дзве белыя калоны. Да бакавых сцен прыляпіліся прыбудоўкі з зашклёнымі верандамі.

Перад домам — палянка, акаймаваная сасняком, злева — густая велічная елка. Непадалёк ад яе — сляды нядаўняга вогнішча — попел і недатлелыя галавешкі. У верхнім пакойчыку гарэла святло і стракатала машынка.

Нас сустракаў дырэктар — невысокі, сівенькі і рухавы Аляксандр Іванавіч Сельдзіеўскі, ветлівы, усмешлівы гаварун на асабліва пявучай беларускай мове. Ён нас прывітаў: «Заходзьце, заходзьце, калі ласка». З баковачкі пад драўлянай лесвіцай выйшла немаладая круглая жанчына. «Прымайце, Францаўна, новых гасцей. Пасяліце, каб усім было зручна». І мы патупалі ўслед за гаспадыняй у белым халаце па рыплівых прыступках, засланых дарожкаю з зялёнымі беражкамі. Мяне Францаўна завяла ў сёмы бакавы пакойчык з зашклёнаю верандаю. «Разбірайце рэчы, а ў сем гадзін, калі ласка, на вячэру. Дарожка за домам адна і прывядзе ў сталоўку». Я стаяў разгублены. Якія раскладаць рэчы: мыла, брытва, зубны парашок і шчотка, змена бялізны, шкарпэткі, агульны сшытак, куплены, як толькі даведаўся, што еду ў Дом творчасці. Значыць, трэба тварыць. Звычайная школьная асадка, аловак, сцізорык, алюмініевая, яшчэ лагерная лыжка (шкада, што не збярог яе). Вось і ўсё маё багацце. А мае спадарожнікі везлі пукатыя чамаданы і адчувалі сябе тут, як свае. Я азіраўся, баючыся лішні раз стукнуць.

Дзіва што: за дваццаць гадоў абыякавасць, сарамлівасць, замкнёная сціпласць былі даведзены да абсурду. Я нават на вуліцы, каб спытаць у сустрэчнага, як мне прайсці, не адважваўся звярнуцца да яго. Замест «таварыш» звяртаўся, як там было паложана, «гражданін». Дзівіўся і сам, як ім удалося растаптаць пачуццё элементарнай чалавечай годнасці, веру і павагу да самаго сябе. Перад прымітыўным дурнем цягнуўся ў струнку. Маўкліва згаджаўся з кожным начальніцкім глупствам. Бо на тую службу ішлі самыя жорсткія, больш ні на што не згодныя, прымітывы. Доўга я «выціскаў з сябе раба», хоць душа бунтавала, а мусіў цярпліва і паслухмяна маўчаць.



*Барэл'еф С. Грахоўскаму ў Глуску.*

О, Божа, зноў збіўся на старую песню, а яна, як воспа, уелася ў душу і колькі ж прыйшлося павольна выпроствацца, узнімаць галаву, азірацца назад, маўчаць, калі буйнавала сэрца.

А маўчаць не ўмеў, часам зрываўся, казаў, што думаў, а навокал стукачы сачылі днём і ўначы. І на ўмоўнай волі я не меў ласкі быць заўважаным, адзначаным, таму ў самых звычайных і будзённых пераліках трапляў у іншыя. Думай, што там ты і ёсць. А прызнаныя чыноўныя графаманы, калі не траплялі на другое ці трэцяе месца, узнімалі вэрхал аж да ЦК, каб першымі трапіць у рубрыку. Неяк зусім нядаўна, гадоў праз трыццаць пасля майго вяртання, мне давялося разам ісці з вечара з былым работнікам ЦК, а цяпер буйным навукоўцам ідэалагічнага профілю. Ён толькі цяпер даведаўся пра маё мінулае. Спытаў, ці праўда гэта. «Праўда», — кажу. — «Я-та думаю, чаму гэта заўсёды, у любым артыкуле, справаздачы, дакладзе, было выкраслена ваша прозвішча…»

Усё гэта я ведаў, інтуітыўна адчуваў і, не ўгінаючыся, цярпеў.

А тут сустракацца з невядомымі мне, але знакамітымі, як цяпер кажуць, творцамі было страшнавата і няёмка, бо і беларускае слова пасля доўгай разлукі часам перасядала ў горле, даводзілася яго шукаць у засеках памяці.

Я цішком сядзеў у сваім сёмым пакойчыку, праз адзінае акно ўзіраўся ў сосны і магутнейшую елку, што паўкругам расступіліся перад домам. Выходзіў на зашклёную веранду, але на сцежцы, што ішла ад шашы каля дома ў сталоўку, нікога не бачыў. Аднекуль чулася стракатанне машынкі, парыпванне прыступак драўлянай лесвіцы. Перад верандаю круцілася і стукалася ў шыбіну сініца, відаць, чакала пачастунку ад новага пастаяльца, а ў яго яшчэ нічога не было.

Нечакана на сцежцы з'явіўся сярэдняга росту чалавек у чорным паліто і стаўбунку кучомкі. Спыніўся і загледзеўся на «маю» сінічку. Я адразу пазнаў Алеся Якімовіча, першага публікатара маіх вучнёўскіх вершаў у «Беларускім піянеры». Я яго добра ведаў і пазней, калі ён рэдагаваў «Іскры Ільіча» і даволі часта друкаваў мае казкі і «датныя» вершы. Я ўзрадаваўся, што ёсць хоць адна знаёмая і добрая душа. Ледзь стрымаўся, каб не выскачыць яму насустрач.

Час набліжаўся да вячэры, і я падумаў, ці пазнае мяне Алесь Якімовіч?

Неўзабаве заляскалі суседнія дзверы, зазвінелі ключы, пачуліся галасы: «Хопіць стругаць нятленку. Выходзь строіцца на вячэру». Затупалі крокі, зарыпелі масніцы.

Я пастаяў каля вакна, паглядзеў на будучых суседзяў. Выходзілі ў добрых палітонах, хто яшчэ ў футравай шапцы, хто ў капелюшы, нехта ў стракатай кепцы. Прозвішчы іх, відаць, чуў, а ў твар не ведаў нікога. Як яны прымуць мяне і ці прымуць наогул, ці не пагрэбуюць нядаўнім ссыльным (?) у сібірскай апранасе. Пачакаў, калі яны адыдуць і хутка следам пайшоў у сталоўку. Дайшоў па лясной сцежцы, пераступаючы вузлаватыя карэнні. Засвяціўся вокнамі даўгаваты, памаляваны вохраю, з кругляка дом. Пры ганку расла маладая елка, крышку далей пад паветкаю была дрывотня (?) і цыркулярка. Увайшоў у пустыя халодныя сенцы. Павесіў і я сваё асцюковае паліто і рудую шапку, абсмыкнуўся, прыгладзіў парадзелыя валасы. А даўней была ж чупрына, ды якая яшчэ.



*Малюнак С. Грахоўскага «Хата ссыльнага Рудэнкі», 1955 г.*

Увайшоў, азірнуўся, сказаў: «Добры вечар». «Здароў, здароў, Сяргей-валачобнік. Сядай, вось і месца вольнае», — сказаў светлы валасамі і тварам, пазнаны па партрэце прыгажун Анатоль Вялюгін. Я сеў і агледзеўся. За столікам пры сцяне мала змянены, даўно знаёмы Пятрусь Броўка. Я ведаў, што ён Старшыня Саюза, дэпутат, ардэнаносец, шырока вядомы паэт.

Ён убачыў мяне і падаў голас: «Ну, з прыбыццём, Сяргей. Нарэшце сыскаўся. Чуў, што едзеш дадому. Гэта ж колькі гадоў дабіраўся. Мне Пальчэўскі казаў пра цябе. Вячэрай, пасля пагаворым».

Загаварыў усмешлівы Вялюгін: «Я з школы запомніў твой верш: «На азерах сініх белыя лілеі» і «Турксіб» памятаю. Доўга ж ты вывучаў сібірскую магістраль». Пасыпаліся вясёлыя рэплікі незнаёмых суседзяў. А мне падумалася: «Паспытаць бы вам, які кароткі шлях у Сібір і які доўгі з Сібіры».

Пасля вячэры каля дома шпацыраваў Броўка ў асеннім лёгкім паліто, шэрай кепцы, з кійком у руцэ. Ён падышоў да мяне, падаў руку: «Рады, што вяртаецеся, хоць і не ўсе». — «Большасць не вернецца ніколі». — «Мне Алесь тое-сёе расказваў. Вы ж разам былі?» — «То разам, то паасобку, потым зноў лёс звёў». Падышоў Якімовіч: «Ну, як маешся, «піянер Сяргей Грахоўскі?» — так ён некалі падпісваў мае вершы ў часопісе «Беларускі піянер». — Паспавядайся Петрусю, а мы яшчэ пабачымся і нагаворымся», — сказаў і падаўся ў свой пакой. — «Заходзь да мяне заўтра адразу пасля снядання, а цяпер чакае тэрміновая работа».

Падышлі з Вялюгіным хлопцы і зацягнулі ў яго дзевяты пакой.

**Не дапісаў, не дапішу**
**І не сагрэў сваю душу.**

**27.IV.99г. Сяргей ГРАХОЎСКІ**

(БДАМЛМ,
фонд 201,воп. 4, спр. 111, л. 19 — 25)



## Алесь КАРАНЕЎСКІ

***

*Апошнім днём згарэла лета.*
*Зялёны звон прынёс дары.*
*І восень за слюдой паветра*
*Малюе яркія кастры.*

*Спякотных дзён былыя звоны*
*Сышлі ў барвовыя агні*
*З птушыным гоманам шалёным*
*І мленнем сонечнай гульні...*

*Забыты гуд раёў пчаліных,*
*Сунічны пах каля стваloў...*
*Вось лісце жоўтае асіны*
*Злятае ў іншае жытло.*

*Маркотны, лёгкі і нясмелы,*
*З бялявай дымкай нематы,*
*Пейзаж, чароўны і згалелы,*
*Хвалюе сумам залатым!..*

***

*Вераснёвай маркоты падман*
*Млявым пылам змывае даліны,*
*Дзе ў кляновым пажары груган*
*Сцеражэ завушніцы каліны.*

*Тут маркотныя лужы мігцяць,*
*Воддаль сцежка, у дымцы знікае,*
*Зоркі ціха з бярозы ляцяць,*
*Дзе ружовы анёл спачывае.*

*Тут грыбную развёў мітусню*
*Сумны лес і прыкрыў свае нетры...*
*Тут іржавая папараць сну*
*У заціхлым лунае паветры.*

*Льецца побач шаша скрозь туман*
*У разводы бетонных палацаў,*
*Дзе зарнічны, спектральны экран,*
*Дзе анёлаў не бачна за працай.*

***

*Па шляху нам ісці непазбежна*
*У зімовыя плыні снягоў,*
*Праз пустэчу самоты бязмежнай,*
*Праз брыжы каляровых агнёў,*

*У аблогу зыходных бяссонняў*
*З жоўтых звонаў праз вохру і дым.*
*Скрозь трымценне лісцяных далоняў*
*Праз гушчар і пустыя сады,*

*Праз завейныя цені і скруху*
*З бачнай стомай апошніх хады*
*Ці з малітваю светламу Духу,*
*Дзе намолены продкаў сляды.*

*Цяжкі поступ да гэтай даліны...*
*Трэба думаць, не робячы крок...*
*«Многа з болем, а хтосьці ў хвіліны, —*
*Мовіць нехта з дакорам здалёк, —*

*Узляцім мы, і хопіць тут енчыць!*
*За снягі, за паветра, за край —*
*Дзе прываблівa свеціцца Вечнасць,*
*Дзе дзядоў нашых зоркавы рай!»*



Фота Кастуся Дробава



## Таццяна АТРОШАНКА

***

*Ты — мой адчай,*
*Мой боль і страта,*
*Нібы за кратамі душа…*
*Ёсць вострыя меч, надзену латы,*
*Перахрысціўшыся спярша,*
*І там, дзе ажывае памяць,*
*Дзе сэрца цепліць голас твой,*
*Сама сябе не стану славіць —*
*Я прайграю апошні бой.*
*Я не хачу твайго вяртання —*
*Вось гэтай кволаю рукой*
*На меч...*
*Хіну...*
*Сваё…*
*Каханне…*
*Калі ты побач не са мной…*

### Сум Залесся

*Пад нагамі — з бяроз лістота,*
*Нада мною —*
*Цікаўны птах*
*Паглядае уніз употай:*
*«Хто ступае пад гэты дах?»*
*Дзе даўно не гучалі трэлі,*
*І музыка ён тут — адзін…*
*А калісь — крышталём звінелі*
*Флейты, скрыпкі і клавесін,*
*Дзе мяшаліся ўсе адценні*
*Шчасця, радасці і тугі,*
*І за намі плыў доўгім ценем*
*Сум Залесся каля ракі…*
*Ціш… Ніводнай жывой істоты,*
*Ледзь ківае галінкай бэз…*
*Дождждык піша на вокнах ноты,*
*Напяваючы паланэз…*

***

*Не сумуй, што прыйшоў не першы —*
*Будзеш лепшы, адзіны сёння…*
*Пра цябе напішу я вершы,*
*Прачытаю пад жоўтай поўняй,*
*Каб у снах мяне бачыў зноўку,*
*Каб удзень адчыняла дзверы,*
*Для цябе я пяю салоўкай,*
*Каб ты мне хоць крыху паверыў…*
*Не крыўдуй, што я зноў забыла*
*Напісаць смс-пасланне,*
*Што ты мой, што адзіны, мілы,*
*Табе сонна прашэпча ранне…*
*Сёння ты не такі самотны —*
*Ад усіх зачыняем дзверы…*
*Не бяды: расхінуты вокны —*
*Хай над намі плыве Венера…*



## Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ

### Маме

*Са слова «мама» пачынаем гаварыць,*
*Любіць жыццё і спасцігаць каханне.*
*Бо ў слове гэтым ёсць любві прызнанне,*
*Якое свечкай у вачах гарыць.*
*Бо толькі мама зразумее нас заўжды,*
*Суцешыць і сагрэе каля сэрца.*
*Шкада, што старэць нашых мам гады,*
*Што бег жыцця спыніць нам не ўдаецца.*
*А мы для мамы толькі дзеці і не больш,*
*Хаця даўно свае ўжо маем сем'і.*
*Матуля, мама, сэрца не трывож,*
*Што ўнукі запрашаюць на вяселлі.*
*Што сівізна на скронях у цябе,*
*Хаця твой год — шчаслівы сорак пяты —*
*Узяў імклівы, хуткасны разбег,*
*Каб праўнукаў сустрэць ля роднай хаты.*
*У нас яшчэ ў запасе ёсць гады,*
*Каб выказаць усё, што не паспелі.*
*Цвітуць за плотам татавы сады,*
*А мы на лаўцы з мамаю прыселі*
*І заспявалі песню пра любоў,*
*Пра туманы над Прыпяццю-ракою,*
*Што сцелюцца над кронамі дубоў*
*І дыхаюць любоўю і спакоем.*

### Дзяды ідуць

*Я долу нізка пакланюся*
*Дзядам сваім, якіх няма.*
*Я разам з імі памалюся*
*І вып'ю келіх свой да дна.*
*Дзяды ідуць!*
*Святыя. Нашы…*
*Дзяды ідуць!*
*Ідуць дзяды.*
*І дзеляцца святою кашай,*
*І пазіраюць праз гады.*
*Дзяды мае,*
*Зямлі рупліўцы,*
*Працаўнікі зялёных ніў,*
*Я чую вас*
*У кожнай жылцы,*
*Чакаю вас у новым дні.*
*Жыццё без вас —*
*Царква без званоў.*
*Заходзьце,*
*Родныя дзяды!*
*Хачу пачуць*
*Ваш мілы гоман,*
*Хачу прадоўжыць вам гады.*

### Міколу Купрэеву

**Пісьменніку, земляку, аднадумцу**

*Мне ў вершах*
*бацькам хросным быў Купрэеў.*
*Не верыце? А так яно было!*
*То ён у сэрцы зернейка пасеяў,*
*А зерне набрыняла, прарасло.*
*І зарунела маладая ніва*
*На злосць усім, хто сеяць не хацеў.*
*Наліты колас быў такі шчаслівы,*
*Як бацька мой, што над сталом пацеў*
*І верш пісаў пра мост з вадой глыбокай,*
*Дзе чаплі крочаць па вадзе чародамі…*
*Было так ці здалося нам здалёку,*
*Нібы рыпяць масты ўсе пад народамі?*
*Я веру, то не мост — пяро рыпела*
*Збалелаю паэтавай душой,*
*Якая нарадзіцца не паспела,*
*А ўжо плыла імкліваю Ушой*
*З чароўнай Начы,*
*Каб пачаць спачатку*
*Жыццё сваё*
*У тым малым зярнятку.*

### Восень плача дажджамі

*Восень плача дажджамі,*
*Сэрца сумам гняце,*
*Восень хоча разжаліць*
*Плачам месяца цень.*

*Млечны Шлях занядбалы*
*Кліча ў роздум вякі.*
*Восень грае ў цымбалы,*
*Вяжа лісце ў вянкі.*

*На дарозе адчаю*
*Я знаходжу сляды.*
*Восень плача дажджамі*
*І брыдзе праз гады,*

*Нібы тая жанчына,*
*Што згубіла дзяцей*
*І свой лёс заручыла*
*З успамінам надзей.*

*Вецер лашчыць ёй косы*
*І зазірае ў твар.*
*Шлях праз дождж і праз слёзы —*
*Шлях няздзейсненых мар...*



## Ягор КОНЕЎ

# Суддзя Станкевіч і вагі Феміды

*Гістарычнае апавяданне*

1600 год.

Першы зімовы дзень абрынуўся на Менск густым снегападам.

Суддзя Андрэй Станкевіч глядзеў у акенца на белую імжу, якая накрыла вулкі, хаткі ды камяніцы, час-почас уздыхаў, падыходзіў да каміна, выцягваў са стоса дроваў палена і падкладваў у агонь.

Трэск полымя выразна гучаў у цішыні пустой залы гарадскога суда. Шэрае святло струменілася скрозь вузкія вокны, асвятляла нізкую столь, дзесяць радоў лаў і цагляныя сцены, упрыгожаныя дыванамі з вытканымі на іх алегорыямі Мудрасці, Улады і Дабрачыннасці, а таксама бронзавую статуэтку Феміды, якая ўзвышалася на краі судзейскага стала. Зараз за тым сталом уладкаваўся сакратар Ян Віславух — горбячыся, жмурыў вочы над паперамі, знаёміўся з акалічнасцямі чарговай справы і прастуджана кашляў.

Яго начальнік тым часам думаў пра тое, што нарэшце распачаўся апошні месяц шаснаццатага стагоддзя, а ён на парозе новай эпохі не адчувае ані бадзёрасці, ані ўсхваляванасці, бадай што скруху і стому.

Падставаю для такіх згрызот служылі цяжар і досвед пражыцця. Ужо чвэрць стагоддзя Андрэй Станкевіч шчыраваў на ніве юрыспрудэнцыі. Апошнія дзесяць гадоў менская шляхта рэгулярна абірала на сейміку Станкевіча гарадскім суддзёю. На такой пасадзе ён амаль штодня бачыў, як людзі безупынку псуюць сабе жыццё скаргамі ды спрэчкамі. І перажытае змушала Станкевіча сур'ёзна сумнявацца ў тым, што чалавек створаны па вобразе і падабенстве Боскім...

Задуменна паціраючы азяблыя далоні, Станкевіч меркаваў, што, пэўна, такую ж скруху, як ён цяпер, адчуваў і нейкі суддзя ізраільскі ў часы Саламона, і рымскі квестар у часы Юлія Цэзара. Тры тысячы гадоў мінула з пары, як з'явіліся першыя законы, а розуму ў людскіх галовах не дадалося ані на каліўца, злачынстваў і дураты не сталася менш! Не трэба быць прарокам, каб прадбачыць: тое ж самае чакае род людскі і надалей. Дык не дзіва, што суддзя Станкевіч анічога радаснага не бачыў у тым, што шаснаццатае стагоддзе зменіцца сямнаццатым — дабрыні ў сэрцах і разважнасці ў галовах наўрад ці стане больш.

— Пасяджэнне пачнецца праз гадзіну, — перарваў судзейскі роздум Віславух. — Сёння разглядаем тры справы...

Суддзя падышоў да стала, злёгку шчоўкнуў пальцам па вагах бронзавай Феміды — пустыя шалі захісталіся — і пацікавіўся ў сакратара:

— Ці ведаеце, пане Віславух, чаму я трымаю навідавоку гэты сімвал судовай непрадузятасці?

Тон суддзі сведчыў, што пытанне мае рытарычны характар. Сакратар моўчкі адсунуўся на спінку крэсла.

— Гэта быў першы прэзент, атрыманы мной на судзейскай пасадзе, — пагладзіў Станкевіч пальцам туніку статуэткі. — Спярша нават хацеў адмовіцца ад падарунка. А потым зразумеў, што мой учынак палічаць за дзівацтва.

— Праўду кажа ваша мосць, — хрыплавата прагаварыў Віславух і аглушальна чхнуў. — Статут нашай дзяржавы не прадугледжвае заробку суддзям. Мы жывем паводле рымскага права. А ў старадаўнім Рыме суддзі служылі без усялякай платы, карміліся ж за кошт іншых даходаў. Мы, грэшныя, хоць і жывём не ў Рыме, але таксама суддзяў абіраем і змушаем іх самых здабываць сабе спажытак.

Станкевіч выцер рукавом пляму з пастамента багіні.

— Вось і я тады падумаў, што дарункі тых, хто шукае справядлівасці ў судзе, трэба ўспрымаць не як хабар, але як ахвярапрыношанне на алтар закону. Суддзя ж, бы той паганскі жрэц, жыве на падаванне і наўзамен дорыць людзям ілюзію закону. І калі прымаю гасцінец, то мушу потым ураўнаважыць свой грэх ачышчальным учынкам...

— Такі грэх несмяротны, — запярэчыў сакратар. — Аніводны суддзя ў нашым краі не адмаўляецца ад прэзентаў. І вашай мосці лепей трымацца нораваў нашых юрыстаў. Інакш спасцігне вас гаротны лёс белай вароны ў крумкачовай чарадзе.

— З тае пары я й балансую паміж крайнасцямі, — уздыхнуў суддзя. — Калі адцураюся падарункаў, то пазбаўлюся абавязкаў, якія апраўдваюць маё існаванне перад Богам. Калі ж зраблюся ласы на іх, то з цягам часу згублю сумленне, утаплю яго ў віне, распусце і злоўжываннях... Пра гэта мне і нагадваюць штодня вагі Феміды.

— Калі гаворка зайшла наконт дарункаў, то зазначу, што зацікаўленыя ў сённяшніх слуханнях асобы тое-сёе прэзентавалі вашай міласці.

Віславух выцягнуў са стоса папер ліст і зачытаў уголас.

Са спіса вынікала, што пан Дарніцкі, які восьмы год судзіўся з суседам з-за перанесенага межавога слупа, уручыў судоваму сакратару тысячу злотых. Але яго сусед пан Марышэвіч перадаў Віславуху дзвесце дукатаў і разлічваў на перамогу, паколькі вартасць французскіх грошаў была куды вышэйшая за польскія. Пан Лушчыц, які шосты год патрабаваў ад пана Тулпягі кампенсацыі за тое, што той здратаваў у час палявання ягонае поле, прыгнаў у двор Станкевіча чатыры вазы — з сенам, аўсом, півам і харчамі. Аднак і Тулпяга паклапаціўся пра абарону сваіх правоў з дапамогай трохсот прускіх талераў. Найменш каштоўныя дарункі ўручылі шляхціц Кабыла і рэгент касцёльнага хору Быдгаш: першы — начны каўпак і новыя боты, другі — стрэльбу і пояс. Дванаццаты год судзіліся яны наконт знявагі гонару, але ўжо не маглі прыгадаць, хто каго першы абразіў.

Віславух адсунуў паперу і дадаў:

— З гэтых прэзентаў я адлічыў дваццаць талераў, якія ваша міласць вінны мне за службу, заплаціў дзесяць за дровы, пяцьдзясят за харчы і пітво, трыццаць за новае адзенне і абутак, дваццаць сем за пер'я і паперу... Якія будуць распараджэнні наконт дарыльшчыкаў?

— Да пачатку пасяджэння, пане Віславух, цішком спытайце кожнага: ці згодны ён ахвяраваць пыхаю і пайсці на ўзаемныя саступкі? — загадаў Станкевіч...

Да розных спраў ставіўся суддзя неаднолькава. Калі здараліся крадзеж, кровапраліцце або цялесны гвалт, то неадкладна праводзіў следства, затрымліваў вінаватых ды, не марудзячы, выносіў ім прысуд. І забойцам секлі галовы, рабаўнікоў тапілі ў Свіслачы, а гвалтаўнікоў саджалі на кол. Здаралася, ад моманту злачынства да пакарання мінала менш як тры тыдні. Калі ж інцыдэнт датычыў абразы шляхецкага гонару, то яе разгляд Станкевічам мог доўжыцца і тры гады, і пяць, і нават дваццаць.

Менавіта такія разглядаў ён сёння. Першая справа слухалася ад ранку да поўдня, наступныя — да прыцемак, бо з надыходам цемры аніякае рашэнне ўжо не лічылася законным. На працягу сямі гадзін Андрэй Станкевіч удосталь пачуў напышлівых прамоў абвінаваўцаў і адвакатаў, узаемных перабрэхаў удзельнікаў працэсу, іхніх зваротаў да Бога і ўсіх апосталаў, палкіх клятваў, горкіх слёз і абуранай лаянкі. Увесь гэты кірмаш пыхлівасці перамяжоўваўся рогатам і зняважлівымі выкрыкамі з лаў гледачоў, большасць з якіх заявіліся ў суд на добрым падпітку.

Сакратар Віславух не толькі складаў пратаколы, але і сачыў за тым, каб ніхто ў зале не схапіўся за зброю. Захоўваць парадак яму дапамагаў тузін узброеных вартаўнікоў, нанятых за ўласны кошт Станкевічам.

Вынікам працэсаў сталася прымірэнне паноў Кабылы і Быдгаша — яны адмовіліся ад узаемных прэтэнзій. Што ж да іншых ісцаў, то іх разгляд суддзя адтэрмінаваў на будучы год.

Пачуўшы такое рашэнне, якое вымагала ад іх новых выдаткаў, паны Дарніцкі, Марышэвіч, Лушчыц і Тулпяга раскрычаліся, абрынулі на бессаромнага суддзю процьму праклёнаў, адзінадушна заявілі пра намер пасекчы яго шаблямі на капусту. Толькі прысутнасць вартавых суцішыла страсці, перасцерагла прысутных ад кровапраліцця.

Калі нарэшце зала апусцела, Станкевіч змучана аглядзеў засмечаную падлогу, паваленыя лавы, вокны, у якіх чарнеў змрок. Сакратар пакаваў у скураныя мяхі паперы і пісьмовыя прылады. Суддзя працягнуў Віславуху бронзавую статуэтку, каб сунуў у торбу, і мовіў:

— Шалі Фартуны хіснуліся. Пара вярнуць ім раўнавагу.

***

Нядзеля выдарылася сонечнай і сцюдзёнай.

Пасля ютрані Андрэй Станкевіч у суправаджэнні ўзброенага сакратара пакаціў на санях, гружаных пакункамі.

Спярша пакіраваў у праваслаўную царкву на Старажоўцы. Там меў размову сам-насам з айцом-настаяцелем. Стрымана выслухаў яго скаргі на злосных каталікоў, здраднікаў-уніятаў, бязглуздых лютэран і сквапных іўдзеяў, ад якіх, маўляў, усяму свету адна шкода, бо Хрыста ўкрыжавалі. А сам у думках прыгадваў, што быў ахрышчаны пры нараджэнні праваслаўным і заставаўся ім аж да пятнаццаці гадоў. Дарэчы, у часы каралявання талерантнага Жыгімонта-Аўгуста шмат хто на Літве трымаўся праваслаўнага веравызнання...

Счакаўшы, пакуль святар выгаварыцца, суддзя заявіў:

— Я, бацюхна, да вас прыехаў не з пустымі рукамі. Хачу ўфундаваць школу, якую вы ўтрымліваеце дзявяты год.

Ён паклікаў памагатых. Сакратар і вазніца прыцягнулі мех з саняў.

— Тут прысмакі для дзяцей, а гэта на аплату паперы, чарніла, пер'я і дроваў, — суддзя ўклаў у святарскую далонь кашалёк са злотымі.

— Як мне аддзячыць вашай міласці? — расчуліўся настаяцель.

— Захоўвайце маю ўспамогу, ойча, у сакрэце, — папрасіў Станкевіч. — Прымайце ў вашу школку не толькі шляхецкіх дзетак, але і сыноў месцічаў, гандляроў, цэхавых майстроў. І меней зважайце на тых, хто бэсціць вас і ганіць. Я ведаю, сярод праваслаўных святароў ёсць і такія, хто хоча, каб ваша школа зачынілася. Абы самім не клапаціцца наконт асветы ў сваёй парафіі, абы ім вас не ставілі ў прыклад. Але не саступайце цемрашалам. А я знайду магчымасць падтрымаць вас...

Аслоненае туманам сонца перамясцілася на захад, калі судзейскія сані падляцелі да лютэранскай кірхі недалёка ад Грушаўкі.

Станкевіч сустрэўся з пастарам, задуменна выслухаў ягоныя жальбы на бессаромных каталікоў, заўсёды п'яных праваслаўных, вераломных уніятаў, а таксама іўдзеяў, вартых, маўляў, пагалоўнага спапялення за тое, што Хрыста прадалі. А сам міжволі прыгадваў, як з пятнаццаці да трыццаці гадоў спавядаў лютэранства. Дарэчы, тою парой шмат хто на Літве прымаў веру Лютэра, якую ўкараняў князь Радзівіл Чорны...

Пакрысе Станкевіч скіраваў размову ў практычнае рэчышча:

— Хачу зрабіць унёсак у падмацунак дзейнасці аптэкі пры вашым храме. Дужа я задаволены тым, што лекі ў ёй адпускаюць не толькі вашым адзінаверцам, але і мянянам іншых канфесій...

— Такой была ўмова вашага таемнага мецэнацтва, — нагадаў пастар.

— Не завышайце кошт на мікстуры і парашкі, — Станкевіч працягнуў яму кашалёк з дукатамі. — Такая сума з лішкам пакрые выдаткі на сыравіну і на выраб лекаў... Я ведаю, сярод вашых адзінаверцаў ёсць і такія, хто асуджаюць вашу ініцыятыву. Яны сцвярджаюць, нібы ад хвароб гінуць толькі ілжэхрысціяне, а лютэран бароняць нябёсы. Хай Бог іх за дурноту пакарае, а вас за падзвіжніцтва ўзнагародзіць...

Сонца апусцілася да небасхілу, калі сані са Станкевічам спыніліся каля базыліянскага кляштара недалёка ад Кальварыі.

Суддзя папрасіў ігумена прыняць яго споведзь, затым прыязна паразмаўляў са святым айцом, цярпліва выслухаў яго журбу на схізматыкаў-праваслаўных, хрыстапрадаўцаў-іўдзеяў і агідных лютэран. А сам тым часам прыгадваў, як у 1588-м, на трыццаць трэцім годзе жыцця, прыняў каталіцкі хрост. Кіраваўся пры гэтым выключна прагматычным разлікам. На каралеўскі трон Рэчы Паспалітай тою парой сеў апантаны выхаванец езуітаў Жыгімонт Ваза, які пазбавіў усіх некаталікоў права займаць дзяржаўныя пасады. Калі б Андрэй Станкевіч своечасова не памяняў веравызнання, то страціў бы сваё званне, а разам з ім і ўсялякую магчымасць чыніць карысць паспалітаму люду ў судовай зале ды за яе парогам.

Счакаўшы паўзу ў ігуменскім маналогу, суддзя ўхвальна мовіў:

— Сардэчна вас шаную, ойча, за тое, што ўтварылі ў кляштары прытулак для нямоглых і старых, даеце ім прыстанак і спажытак.

— Хрыстос нас вучыць літасці, — перажагнаўся ігумен.

— І мне здаецца, што вы, ойча, лепшы вучань, — дагодліва ўсміхнуўся суддзя. — Я веру — каталіцтва на Літве ўкараніцца найперш за кошт міласэрных учынкаў. Дазвольце і мне, ойча, праявіць дабрачыннасць.

Паводле ягонага загаду сакратар Віславух і фурман прыцягнулі ў пакой пакункі з адзеннем і абуткам. Уклаўшы ў ігуменскую далонь кашалёк з сотняю дукатаў, Станкевіч дадаў:

— Буду ўдзячны, ойча, калі пра маё фундатарства пачуе як мага болей прыхаджан. Ваша ўхвала пойдзе на карысць маёй рэпутацыі...

Ігумен дакляраваў, што паведаміць пра дабрачыннасць пана суддзі не толькі сваёй пастве, але і біскупам у Вільню і ў Кракаў.

Вяртаючыся на змярканні ў свой дамок на Траецкай вуліцы, Станкевіч, пагладжваючы азяблыя далоні, задаволена мовіў Віславуху:

— Вагі Феміды хіснуліся ў адваротны бок. Раўнавага адноўлена.

Сакратар строс іней з вусоў і аглушальна чхнуў. Учынкі суддзі падаліся яму дарэмнымі, аднак ён абачліва маўчаў на гэты конт. У салодкіх марах Віславух часта ўяўляў, як скарыстаў бы атрыманыя прэзенты. Ён пасяліўся б у сядзібе, а не туліўся б у дамку на тры пакойчыкі. Наняў бы прыслугу і ўласнага кухара... Карацей, пачуваўся б, як звычайны суддзя!.. Станкевіч жа марнуе багацце на школу, аптэку і прытулак для нямоглых. Нібы знарок не заўважае, што тутэйшы люд невыкаранляльна абыякавы да ўсяго карыснага!..

Суддзя ж тым часам думаў, што на нябёсах, пэўна, вядуць дакладны ўлік ягоных злоўжыванняў уладай і атрыманым прэзентам. Аднак з Боскай ласкі ён і займае судзейскае крэсла, каб выграбаць з кішэняў пыхлівых шляхціцаў злотыя, дукаты і талеры на адукацыю, вырабы лекаў і догляд нямоглых.

Будучыня цяпер уяўлялася Станкевічу куды болей прывабнай, чым надоечы.

І колькі б яшчэ разоў ні пахіснуліся шалі яго Фартуны, ён ім заўсёды верне раўнавагу!

# На хвалі добрасуседства

Пра Уладзіслава Сыракомлю (сапр. Людвік Кандратовіч) вымагаюць сёння пагаварыць дзве круглыя даты. Па-першае, 29 верасня спаўняецца 190 год з дня нараджэння пісьменніка і краязнаўца, «вясковага лірніка», як звалі яго сучаснікі. Па-другое, роўна 150 год прайшло з таго часу, як у Вільні выйшаў перакладзены Сыракомлем на польскую мову «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі.



На жаль, нягледзячы на намаганні некалькіх сучасных беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў (найперш Адама Мальдзіса, Кастуся Цвіркі і Уладзіміра Мархеля, які нядаўна пайшоў ад нас назаўсёды), шырокая беларуская грамадскасць пра свайго слыннага земляка ведае да крыўднага мала. Недастаткова ўшанавана яго памяць хаця б у тых мясцінах, дзе ён нарадзіўся, правёў маленства, вучыўся і працаваў, дзе неаднойчы бываў і пра якія ўлюбёна пісаў. Многія ведаюць і любяць рускую народную песню «Ямщик» («Когда я на почте служил ямщиком…»). Але мала хто згадае, што словы песні належаць Сыракомлю, верш якога «Паштальён» у свой час пераклаў на рускую мову Л. Трэфалеў. Увогуле, без перабольшання, Уладзіслаў Сыракомля — найбуйнейшы з паэтаў XIX стагоддзя, якіх нарадзіла беларуская зямля (пасля, зразумела, Адама Міцкевіча). І не толькі па колькасці, але і па ідэйна-мастацкай якасці напісанага.

Як слушна падкрэсліў У. Мархель, у вершах, паэмах, гутарках — такіх, як «Улас», «Нядзеля», «З уражанняў палескага падарожжа», «Эпітафія земляробніку», «Вызваленне сялян», «Сахар-мароз», «Хадыка» і інш. — увага Сыракомлі «ўвесь час была скіравана на тых, хто знаходзіўся ў самым нізе сацыяльнай лесвіцы… Ён імкнуўся паказаць высокія маральныя якасці простага чалавека, схіляў чытача да думкі, што сапраўдная высакароднасць уласціва якраз простанароддзю, а ў паноў яна ўяўная, і ставіў тым самым пытанне аб правах абяздоленых на роўнае і зямное шчасце». Да паэзіі арганічна далучаюцца яго шматлікія пераклады, публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, эсэ, краязнаўчыя нарысы-даследаванні, некаторыя з якіх выходзілі асобнымі кнігамі. Без непасрэднай ці ўскоснай творчай падтрымкі Уладзіслава Сыракомлі так высока не ўзняліся б ні Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, ні Янка Лучына, ні Францішак Багушэвіч.

Нам застаецца толькі пашкадаваць, што У. Сыракомля, які з дзяцінства быў двухмоўны і гаварыў па-беларуску, па яго ж словах, «з пэўнай элеганцыяй», не стаў шырока карыстацца беларускай мовай у сваёй творчасці, хоць усё, што ён напісаў, літаральна дыхае Беларуссю, перасыпана беларусізмамі. Мовавед Ю. Трыпуцька, аўтар двухтомнага даследавання «Мова Уладзіслава Сыракомлі» (1957), падкрэсліў, што «ў ніводнага іншага польскага пісьменніка не ўдалося выявіць такой вялікай колькасці беларускіх элементаў». Ён налічыў у лексіконе «вясковага лірніка» звыш 150 беларускіх лексем і фразем. І гэта пасля таго, як Вінцэсь Каратынскі, рыхтуючы ў 1872 г. 10-томнае выданне паэзіі Сыракомлі, пастараўся «вычысціць» творы паэта ад «правінцыялізмаў», г. зн. беларусізмаў… Праўда, «у стол» паэт часам пісаў і на чыстай беларускай мове, якую называў «крывіцкай» або «русінскай», пра што сведчаць два яго захаваныя вершы («Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды…»). Нават спрабаваў са сваім верным сакратаром-памочнікам В. Каратынскім, таксама паэтам, выдаць сумесны зборнік беларускамоўных вершаў. Горача падтрымліваў у польскім друку беларускамоўную творчасць Дуніна-Марцінкевіча. Аднак умовы палітычныя (афіцыйная забарона друку на беларускай мове) і сацыякультурныя (непісьменнасць асноўнага носьбіта беларускай мовы — сялянства, выдатнае веданне тагачаснымі беларусамі, тымі ж сялянамі, мовы польскай і інш.) прадвызначылі моўна-творчую арыентацыю Сыракомлі, станаўленне яго як беларускага польскамоўнага пісьменніка XIX ст.

Апошняя акалічнасць абумовіла і пераклад Сыракомлем зборніка вершаваных твораў Тараса Шаўчэнкі «Кабзар» з украінскай мовы менавіта на польскую. Зборнік асобным выданнем выйшаў у Вільні ў 1863 г., калі ўжо не стала перакладчыка (сканаў Сыракомля 15 верасня 1862 г.). Праўда, кніга была падрыхтавана да друку пры ягоным жыцці, пра што сведчыць нататка на адвароце яе тытула: «Дазволена цэнзурай, дня 12 студзеня 1862 года». А ўвогуле «Кабзар» перакладаўся, калі яшчэ жыў нават сам Тарас Шаўчэнка. Пра гэта неаспрэчна сведчыць невялікая прадмоўка перакладчыка да «Кабзара», якую варта прывесці цалкам: «Тарас Шаўчэнка, паэт, наш сучаснік (poeta żyjący), які вядомы сваімі рознымі цікавымі жыццёвымі пуцявінамі, заслугоўвае прызнання найбольшага сёння песняра Украіны. Адчуваючы, што яшчэ дачасна рабіць аналіз жыцця і творчасці жывога аўтара, мы пераклалі без каментарыяў ягоны «Кабзар», збор вершаў і паэм, што вызначаюцца мужнасцю, сілай, глыбокім веданнем народу і любоўю да яго. Украінская паэзія, якая распачала новую эру, не можа быць для нас чужой. У нашым перакладзе апусцілі мы некалькі месц з «Тарасовай ночы», не пераклалі паэму «Гайдамакі», бо тут аўтар, мачаючы пэндзаль у кроў, эстэтычна сапсаваў прыгажосць сваіх вобразаў».

Як бачым, у некалькіх сказах — і паважлівае стаўленне Сыракомлі да Шаўчэнкі, і высокая ацэнка творчасці ўкраінскага песняра, і акрэсленне месца яго ў літаратурным працэсе тагачаснай Украіны. Што да заўвагі адносна неперакладзеных «Гайдамакаў» і «некалькіх месц» з «Тарасовай долі», то яна, як мне здаецца, выклікана дзвюма прычынамі. Па-першае, паэму «Гайдамакі» ў той час узнялі на-польску — і гэтага не мог не ведаць Сыракомля — польскі пісьменнік-дэмакрат Леанард Савінскі, аўтар «Даследавання сучаснай украінскай літаратуры» (Вільня, 1860). Была, аднак, і другая прычына.

Яшчэ ў 1858 г., у перыяд сялянскіх хваляванняў і таемнай падрыхтоўкі паўстання 1863 г., Сыракомля наведаў Познань, горад, што тады знаходзіўся ў Прусіі. Мэтай было наладзіць дастаўку ў Беларусь і Літву нелегальных выданняў, у тым ліку часопіса «Колокол» Герцэна. У Познані, як данеслі сексоты, паэт, апрача ўсяго, выступіў з вершамі «шкоднага кірунку». На радзіме за Сыракомлем быў наладжаны сакрэтны паліцэйскі нагляд, чаго ён не мог не адчуць. І трэба было канспіравацца, афіцыйна паказваць сваё адцуранне ад «крывавай» барацьбы…

У. Сыракомлем былі перакладзены, па сутнасці, амаль усе творы — трынаццаць з сямнаццаці — з другога выдання «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі, што ўбачыў свет у пецярбургскай друкарні П. Куліша 23 студзеня 1860 г. Невядома, як і калі трапіў у рукі Сыракомлі той шаўчэнкаўскі рарытэт. Можна, аднак, меркаваць, што «вясковы лірнік» працаваў над перакладамі не больш як год (калі лічыць ад часу выхаду «Кабзара» і да смерці Шаўчэнкі). Даводзіцца толькі здзіўляцца таленту і надзвычайнай працавітасці перакладчыка. Бо ў тым жа 1860 г. ён актыўна пісаў і друкаваў сваю паэзію, прозу, публіцыстыку. Займаўся грамадскай дзейнасцю, праўдамі і няпраўдамі раздабываў пашпарт, каб з'ездзіць у Варшаву, якая пераднавальнічна бурліла тады. Урэшце, у пачатку 1861 г. наведаў горад над Віслай, што закончылася яго арыштам і месячным зняволеннем у Віленскай цытадэлі. А яшчэ ж нельга не ўлічваць і яго хваробу — сухоты, якія актыўна прагрэсіравалі і ўрэшце праз два гады звялі саракагадовага пісьменніка ў магілу…

Улічваючы ўсё гэта, можна выказаць здагадку, што Сыракомля меў у сябе шаўчэнкаўскі «Кабзар» 1840 г. і шэраг твораў, якія былі змешчаны там, пераклаў раней, але з-за цэнзурных забарон пасля арышту Шаўчэнкі ў 1847 г. не мог іх нідзе надрукаваць. «Кабзар» жа 1860 года выдання, як вядома, паўтараў «Кабзар» 1840 г.

Перакладаючы паэзію Шаўчэнкі на шырока распаўсюджаную на беларускіх землях польскую мову, Сыракомля, як і ў сваёй уласнай творчасці, адрасаваўся найперш да беларусаў. З дапамогай Шаўчэнкі ён імкнуўся ажывіць нацыянальную і сацыяльную свядомасць сваіх землякоў, для якіх прыклад самаахвярнага служэння аўтара «Кабзара» і ўкраінскай («маларасійскай», як тады яе афіцыйна называлі) мове, культуры, і самой Украіне, роднаму народу шмат што значыў. Гэта было вельмі важна менавіта напярэдадні паўстання 1863 г., адпавядала яго мэтам і задачам. Тэмы, сюжэты, вобразы, эмацыянальнае напаўненне перакладзеных вершаў і паэм былі надзвычай блізкія беларусам, родным братам украінцаў.

Арыентацыя на пэўнага адрасата абумовіла і перакладчыцкую стратэгію Сыракомлі. Ён імкнуўся ў першую чаргу данесці да чытача эстэтычную вартасць твораў. Адсюль — розныя спосабы перакладу: ад адэкватнага перастварэння арыгінала да вольнага, ад уласна перакладу да пераспеву. Пры гэтым, зразумела, на першым месцы была сэнсавая адэкватнасць іншамоўнага ўзнаўлення і першакрыніцы. Праўда, часам канкрэтная сітуацыя прадвызначала і некаторыя адступленні ад аўтэнтыка. Так, напярэдадні польскага нацыянальна-вызваленчага паўстання немэтазгодна, на думку перакладчыка, было негатыўна маляваць палякаў («ляхаў»). У выніку ў паэме «Тарасова ніч» «поганий Конецпольський» стаў проста «panem Koniecpolskim», а «вражі ляхи» — толькі «lachami». Магчыма, такім пасылам кіраваўся перакладчык, калі не стаў узнаўляць «Гайдамакаў», дзе вобраз «ляхаў» пададзены ў востра негатыўным плане. У той жа час Сыракомля, прыхільна стаўячыся да Украіны, усюды ў перакладах стварае яе станоўчы вобраз. Падчас перакладчык нават узмацняе нацыянальную ідэнтычнасць першакрыніцы. Скажам, у арыгінале паэмы «Тополя» казак, якога палюбіла «чорнобрива дівчина», «пішов — та й загинув», а ў перакладзе — «Kozak odszedł i gdześ zginął // W głębi Zaporoża». «Було колись — в Україні // Ревіли гармати…» — так пачынаецца шаўчэнкаўскі верш «Іван Падкова». У перакладзе ж — «W Zaporożu grzmi armata…»

Густы і ўпадабанні тагачасных усходнеславянскіх чытачоў, галоўных успрымальнікаў твораў Шаўчэнкі, улічыў Сыракомля нават пры перадачы такой тонкай паэтычнай матэрыі, як рытміка і метрыка. Традыцыйны польскі верш — верш сілабічны, што абумоўлена характарам польскай мовы, сталым месцам націску ў словах — на перадапошнім месцы (у адрозненне ад рознамеснага націску ва ўсходнеславянскіх мовах). Ведаючы гэта і арыентуючыся найперш на беларуса, Сыракомля наўмысна шырока ўводзіць у свае пераклады ўсходнеславянскі сілаба-танічны верш (які, дарэчы, часта выкарыстоўваў і ў сваёй польскамоўнай творчасці). Уводзіць нават там, дзе Шаўчэнка карыстаўся не сілаба-танічным, а польскім сілабічным ці ўмоўна-сілабічным вершам. І польская мова «паддалася»: сілаба-танічны верш, нават у чужой моўнай апратцы, набыў лёгкі, элегантны выгляд.

Вось як, напрыклад, у перакладзе Сыракомлі гучыць шаўчэнкаўскі каламыйкавы 14-складовік, кожны радок якога падзелены на два паўрадкоўі (8+6): «Wieje wicher, wieje srodze, / Aż szumi dolina, // Bije w topol, co przy drodze, // Aż ku ziemi zgina». Параўнаем з арыгіналам: «По діброві вітер виє, / Гуляє по полю. // Край дороги гне тополю / До самого долу». Як бачым, даслоўнай ідэнтычнасці тут няма, але сэнсавая — пагатове. Няма і строгай эквіметрычнасці: у арыгінале верш акцэнтна-складовы (4-акцэнтны 14-складовік), у перакладзе ж — сілаба-танічны (чаргаванне 4-стопнага харэя з 3-стопным). Што ж, любы пераклад, тым больш вершаваны, — не фатаграфія арыгінала. Галоўнае, каб былі захаваны сэнсавыя дамінанты, асноўныя асаблівасці паэтыкі і сама паэтычнасць першакрыніцы. А гэта, лічу, перакладчыку захаваць удалося.

Часам перакладчык нібы знарок дэманструе багатыя магчымасці — і свае як творцы, і польскага вершавання ўвогуле. Так, напаўбелы верш «Нащо мені чорні брови…» (у катрэне рыфмуюцца толькі цотныя радкі) у перакладзе набывае поўную рыфмоўку. Ды яшчэ ў цотных радках усюды з'яўляюцца мужчынскія рыфмы (у арыгінале былі жаночыя): «Po co u mnie czarne brewki, // Po co oczy gdyby żar, // Po co w sercu grają śpiewki, // Po co w głowie tyle mar?». У польскай паэзіі з-за прасадычных асаблівасцей мовы (месца націску) пануюць жаночыя рыфмы, мужчынскія сустракаюцца вельмі рэдка, хутчэй як эксперымент. А тут ва ўсіх дзевяці строфах верша — мужчынскія, што, зрэшты, ад перакладчыка і не вымагалася (у арыгінале былі жаночыя).

Шаўчэнка ў сваіх ранніх творах карыстаўся пераважна каламыйкавым вершам. А менавіта раннія творы ўкраінскага паэта і ўвайшлі ў віленскі «Кабзар». Сыракомля, сам паэт, несумненна адчуваў: усюды перадаваць каламыйкавы верш чаргаваннем 4-стопнага і 3-стопнага харэя з перакрыжаванай рыфмоўкай — значыць зрабіць шаўчэнкаўскі пераклады зборнік рытмічна даволі аднастайным. А гэта можа зашкодзіць паэтычнасці кнігі як мастацкай цэласнасці. Магчыма, таму ён часам ідзе на даволі істотныя адступленні ад прынцыпаў эквірытмічнасці, не захоўвае рыфмоўку і нават строфіку арыгінала. Так у перакладзе адной з шаўчэнкаўскіх «Думак» («Тяжко-важко в світі жити…») каламыйкавы верш становіцца строгім 4-стопным харэем, ды яшчэ з сумежнай рыфмоўкай: «Och! nie znacie, och! nie wiecie, // Jak sierocie zle na świecie...». Паэма «Тарасова ніч», напісаная тымі ж памерам і страфой, што і папярэдняя «Думка», у перакладзе набывае памер 4-стопнага дактыля з цэзураваным усячэннем на адзін склад і сумежную рыфмоўку. Вось як пачынаецца паэма ў арыгінале і ў перакладзе: «На розпутті кобзар сидить / Та на кобзі грає, // Кругом хлопці та дівчата, / Як мак процвітає»; «Znow na rozdrożu widac kobzarza, // Jak staroświeckie pieśni powtarza, // Dziewczeta, chłopcy w całej gromadzie // Zakwitli przy nim, jak maki w sadzie». Усё гэта, ды яшчэ некаторыя яўна няўдалыя мясціны паэтычных узнаўленняў (як, у прыватнасці, пры перадачы пачатку паэмы «Причинна» з яе славутымі радкамі: «Реве та стогне Дніпр широкий…»), далей згадзіцца з той думкай, што ў «Кабзары» Сыракомлі побач з удалымі перакладамі (адэкватнымі, паўнацэннымі, рэалістычнымі) сустракаюцца і перапевы (вольныя ўзнаўленні).

А што ўдалыя пераклады ў зборніку ёсць, і іх большасць, гавораць наступныя факты. Цалкам «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі ў польскамоўным перастварэнні Уладзіслава Сыракомлі выходзіў двойчы: у Варшаве ў 1872 г. (у складзе паэтычнага 10-томніка) і ў 1883 г. у Львове (асобным выданнем). Пераклады «вясковага лірніка» передрукоўваліся і значна пазней. Скажам, у варшаўскае выданне выбраных твораў песняра Украіны 1955 года, побач з перакладамі Л. Левіна, У. Слабодніка, Я. Івашкевіча і іншых выдатных польскіх майстроў мастацкага перакладу, увайшло ажно дзевяць перакладаў Уладзіслава Сыракомлі з віленскага «Кабзара» 1863 года.

**Вячаслаў РАГОЙША**

Кніжны свет
27 верасня 2013 г.

*Унікальны праект*

# Пароль: Целеш

**Гэтую кнігу складана будзе знайсці ў кнігарні. Адразу ж пасля выхаду яна стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Прычына таму — не толькі абмежаваны наклад. Выданне прызначана для ўнутранага сямейнага выкарыстання членамі роду Целешаў. Але пагартаць яе ці проста пазнаёміцца з агульнай канцэпцыяй і структурай, думаю, будзе карысна кожнаму, хто цікавіцца гісторыяй сваёй сям'і, хоча скласці ўласны радавод. Менавіта такі своеасаблівы майстар-клас і прапануе чытачу мастак, краязнаўца Вячка Целеш у выданні «Адсюль наш род, тут мой прычал» (Мінск: Кнігазбор, 2013). Падчас свайго нядаўняга візіту на радзіму Вячаслаў Міхайлавіч завітаў да нас у рэдакцыю і распавёў пра адметнасці стварэння кнігі, яе своеасаблівыя рысы і ў цэлым адзначыў тэндэнцыю зацікаўленасці ўласным радаводам не толькі ў Беларусі, але і ў Латвіі.**

### АД ПАШТОВАК ПАЧАТАК

— Па адукацыі я мастак, выкладчык, скончыў Латвійскую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, але яшчэ з самага дзяцінства гісторыя — маё вялікае захапленне. Спачатку ўсё зводзілася толькі да разглядвання старых манет, але пазней, калі я ў 1958 годзе прыехаў у Рыгу, пабачыў прыгожы еўрапейскі горад са старажытнымі дамамі, з вежамі цэркваў і касцёлаў, то цалкам захапіўся яго мінуўшчынай. Пачаў збіраць паштоўкі з краявідамі Старой Рыгі. Спачатку самастойна, а крыху пазней трапіў у адно месца, дзе нелегальна збіраліся калекцыянеры. Раней не было антыкварыяў, забаранялі калекцыяніраваць старыя рэчы. Толькі маркі можна было збіраць. Там жа я ўбачыў старыя паштоўкі з відамі Рыгі канца XIX — пачатку XX ст. На гэтых выявах было бачна, як людзі апраналіся ў той час, які быў транспарт. Мяне гэта вельмі захапіла.

Напэўна, па натуры я ўсё ж не толькі мастак, але і даследчык мінуўшчыны. Калі бачу ў музеі старыя рэчы, гартаю старажытныя рукапісы, кнігі, праглядаю старыя часопісы, то маю вельмі прыемныя адчуванні. Прыкладна з 1968 года я захапіўся справай калекцыяніравання паштовак. Мае ўласныя зборы паступова папаўняліся, а на малюнках траплялiся не толькі краявіды Старой Рыгі, але і выявы беларускіх гарадоў.

Калі Уладзімір Караткевіч прыязджаў на адпачынак да нас у Латвію, у Дубулты, мне выпала магчымасць з ім пазнаёміцца. Я паказаў пісьменніку старыя паштоўкі з краявідамі Оршы, ён быў у вялікай радасці і захапленні. Пазней Уладзімір Сямёнавіч пазнаёміў мяне з Адамам Мальдзісам, у яго была досыць багатая калекцыя паштовак з відамі Мінска, некаторыя з іх я нават атрымаў у падарунак ад шаноўнага даследчыка.

Калекцыяніраванне мела і выдавецкі плён: выйшлі альбомы «Мінск на старых паштоўках», «Рыга на старых паштоўках», а кніга «Гарады Беларусі на старых паштоўках» ужо вытрымала аж тры перавыданні, цяпер рыхтуецца чацвёртае. Адметна таксама, што альбомы — гэта выданні, падрыхтаваныя на навуковай даследчай аснове. Кожнае лета я езджу па гарадах, іду ў мясцовы музей, глядзеў іх паштоўкі, паказваў свае, шукаў мясціны, адлюстраваныя на старых выявах, параўноўваў з сучаснай рэчаіснасцю. Таму лічу, што гэтыя кнігі — знаходка для краязнаўцаў. Паступова ўвёў «моду» на падобныя праекты: ужо пабачылі свет альбомы паштовак з выявамі Масквы, Санкт-Пецярбурга, іншых гарадоў.

### ВЫТОКІ ТАЛЕНТУ І… СЯМ'І

— Калі справа з калекцыяніраваннем была нібыта завершана, я пачаў цікавіцца звесткамі пра вытокі свайго роду. Больш за тое, у мяне заўсёды пыталіся, ці маю продкаў-мастакоў. Я казаў: «Не», — бо не ведаў... Але потым, калі мой дзядзька прыязджаў з Канады ў 1980-х, яму задаў гэтае пытанне. Высветлілася, што яго дзед — то бок мой прадзед, які быў дзякам у царкве, — выразаў з вапняка прыгожыя крыжы, надмагіллі. Адзін з такіх крыжоў я бачыў у дзяцінстве. Напэўна, ад сваяка мне і перадаўся талент.

Так я вырашыў збіраць звесткі пра дзеда, астатніх родзічаў, каб скласці генеалагічнае дрэва. Але калі пачаў больш адрасна займацца справай, то заўважыў: у нас трэцяя частка вёскі — Целешы. А адкуль яны? Значыць, мы ўсе родзічы. Так і атрымалася.

Працаваў у архівах Гародні, Вільнюса... Хадзіў па хатах, запісваў гісторыі сем'яў усіх Целешаў — нашых сучаснікаў. Паступова «збіраўся» ланцужок. У гэтай працы мне вельмі дапамагла мая сястра Вера. Працэс вельмі складаны: патрэбна не толькі шмат працаваць у архівах, але пісаць, тэлефанаваць у розныя месцы, занатоўваць успаміны. З вёскі Краснае Сяло (цяпер г. п. Краснасельскі), што на Ваўкавышчыне, Целешы разляцеліся паўсюль: прадстаўнікі нашага роду жывуць у Таронта, Хабараўску, ва Украіне, у Польшчы, натуральна, і ў Беларусі, у нашым родным Краснасельскім.

Радавод — гэта наша гісторыя, дзе распавядаецца пра дзядоў і прадзедаў, згадваецца маленства і мінулае. Мне хацелася апісаць і мясціны, дзе я нарадзіўся, хадзіў у школу, дзе вырас. Цяпер там цалкам усё змянілася. Спачатку я планаваў даследаваць толькі гісторыю сваёй сям'і, але ў выніку справа ператварылася ў шырокае вывучэнне ўсяго роду. Над кнігай працаваў тры гады, з іх два літаральна не адыходзіў ад камп'ютара…

### ЛЕТАПІС РОДУ — ГІСТОРЫЯ ВЁСКІ

— Кніга «Адсюль наш род, тут мой прычал» — не для публічнасці. Гэта прыватнае жыццё кожнага Целеша, па сутнасці, фамільная кніга. Я арыентаваўся, каб усе, пра каго пісаў, атрымалі гэтае выданне, прачыталі, перадалі сваім дзецям і такім чынам захавалі памяць пра нашых продкаў. Мы павінны памятаць бацькоў, дзядоў, прадзедаў, прыходзіць на могілкі, распавядаць пра сваіх продкаў дзецям і ўнукам. Каб ведалі, адкуль іх карані, любілі сваю малую радзіму. Я жыву ў Латвіі ўжо больш як 50 гадоў, гэта ўжо другая радзіма, але ўсё ж мае карані, мая любоў — на беларускай зямлі.

Мне надзвычай прыемна, што многія Целешы чакаюць гэтую кнігу, асабліва маладыя. Вельмі важна, што ў працы дапамагалі многія сваякі. Напрыклад, траюрадная сястра, якая жыве ў Мінску, нават знайшла ўспаміны свайго дзеда, які нарадзіўся ў XIX ст., служыў у пана, быў у царскім войску. Гэта было цікава, каштоўна і нечакана.




### НАЗАД, У 1795 ГОД

— У Латвіі таксама сёння цікавяцца сваімі радаводамі, але кнігі выдаюць у асноўным толькі пра дзеда-прадзеда, іх братоў. Такія выданні выходзяць вельмі малымі накладамі — 20-30 асобнікаў, і ў кнігарнях вы іх дакладна не знойдзеце. Адметна таксама, што большасць кніг, прысвечаных генеалогіі, распавядае пра радаводы князёў, шляхту. А яны мелі свой афіцыйна зарэгістраваны герб, сваё радавое дрэва. Гэтую інфармацыю і сёння лягчэй знайсці. Але такога шырокага даследавання, дзе ахоплена гісторыя больш як 50 сем'яў, па сутнасці ніхто не праводзіць.

Я напісаў пра сялян. Мае прапрадзеды былі прыгоннымі сялянамі, а вёска належала графу Патоцкаму. Мае продкі жылі ў курных хатах… Сам жа радавод я прасачыў аж да 1795 года. У нас не было свайго сямейнага герба. Але я распрацаваў экслібрыс — як герб. У цэнтры — целеш, кавалак адпілаванага ліпавага бервяна, бо каля хаты амаль у кожнага Целеша раслі ліпы. На выяве адна ліпка расцвіла, тут жа з'явілася і пчолка: з аднаго боку, мае продкі былі працавітыя, але ёсць і больш прыземленае тлумачэнне — яны аж з XIX ст. заўсёды мелі вуллі.

Спадзяюся, што маё даследаванне натхніць і прадстаўнікоў іншых родаў, падкажа шлях да складання ўласнага радаводу, напісання фамільнай кнігі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*За падзеяй*

# У калекцыю бібліяфілу

**У сталічнай краме «Кніжны салон» адбылася сустрэча, прысвечаная выхаду новых кніг серыі «Беларускі ex libris». Мерапрыемства наведалі народны мастак Рэспублікі Беларусь Георгій Паплаўскі і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Стоян Еўціч.**

Выданні серыі «Беларускі ex libris» — унікальныя. Гэтыя кнігі выходзяць абмежаваным накладам у 99 асобнікаў. Адметна, што ў нашай краіне праект стаў своеасаблівым адкрыццём: раней ніхто не збіраў беларускі экслібрыс у адной серыі. Кіраўніцтва «Кніжнага салона» ў межах праекта плануе выдаць 8 кніг — кожная будзе прысвечана работам і асобе пэўнага мастака, які працуе ў жанры экслібрыса.

Так, першае выданне ў серыі пабачыла свет год таму і было прысвечана мастаку Арлену Кашкурэвічу. У другім выпуску сабраны работы Ганны Ціханавай, а ў трэцім — экслібрысы Мікалая Селешчука.

Падчас сустрэчы ў «Кніжным салоне» гаворка ішла і пра чацвёртае выданне ў серыі. Новая кніга будзе прысвечана гродзенскаму мастаку Юрыю Якавенку. Дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва, ініцыятар і куратар серыі «Беларускі ex libris», падкрэсліла: «Мы працуем над формай, але робім і адкрыццё для гледача».

Распавяла А. Зміёва і пра планы «Кніжнага салона». Тут традыцыйна будуць праходзіць прэзентацыі новых выданняў, а таксама сустрэчы сяброў клуба бібліяфілаў. Як і раней, — у кожны апошні чацвер месяца.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Тры аповесці

Кніга «Ларыса, альбо каханне аўтамабіліста» беларускага празаіка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леаніда Левановіча выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Кніга змяшчае тры творы, напісаныя ў розны час. Адкрываецца выданне аповесцю «Якар надзеі» (1977), рамантычнай гісторыяй у трох частках з эпілогам. Аляксей Гардзіевіч — марак атамнай падлодкі Паўночнага флоту. Галіна — маладая настаўніца, якой хутка давядзецца вучыць свой першы ў жыцці клас. Аляксей і Галіна — былыя аднакурснікі. Толькі калі разлучыліся, яны зразумелі, што адчуваюць адзін да аднаго. Перад намі іх лісты — ад першага да апошняга. Закаханыя дзеляцца ўсім, што адбываецца ў іх жыцці. Аляксей распавядае пра нялёгкую службу, Галіна ж звяртае ўвагу на працу ў школе, сваіх вучняў. Скрозь радкі — чаканне, якое здаецца бясконцым, жаданне сустрэчы… Якар здаўна лічыцца сімвалам надзеі марака, яго непахіснай веры. «Якарам надзеі» Аляксей называе сваю Галінку. Аднак, апынуўшыся на апошняй старонцы аповесці, чытач сустрэне развязку, якой зусім не чакаў…

Цэнтральнае месца ў кнізе займае аповесць «Ларыса, альбо каханне аўтамабіліста» (1995). Пачынаецца яна з думкі: «Як шмат чаго ў жыцці адбываецца нечакана!» І праўда, хіба ўяўляў Павел, вучонымовазнаўца, як зменіцца яго жыццё ў самы звычайны дзень, калі ён летнім ранкам ехаў на шафёрскую камісію? У паліклініцы яго чакала знаёмства з доктаркай, якое цалкам змяніла яго жыццё. «Ларыса, альбо каханне аўтамабіліста» — не проста аповесць пра чалавечыя ўзаемаадносіны. Гэта аповесць філасофская, яе героі спрабуюць адказаць на розныя пытанні. Гэта звычайныя людзі, са сваімі клопатамі, перажываннямі, памылкамі…

Завяршаецца кніга дакументальнай аповесцю «Зямля і людзі», якая прысвечана беларускім цаліннікам. Гэта запісы пісьменніка, зробленыя ім падчас вандровак у Казахстан, на цаліну, дзе працавала шмат нашых землякоў. Цаліна — месца, якое мае асаблівае значэнне для аўтара. Там жыла яго сястра з сям'ёю, а пазней з'ехаў на цаліну і старэйшы брат. Цалiннік, на думку аўтара, паняцце не стольк і геаграфічнае, колькі маральнае. Аповесць дапамагае чытачу зразумець і асэнсаваць, хто такія беларускія цалінікі. Героі дакументальнай аповесці — рэальныя людзі. Таму гэтыя запісы сапраўды з'яўляюцца часткай гісторыі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Мастак і кніга

# Рабі тое, чаго... не ўмееш

Уладзімір Даўгяла — адзін з вядомых беларускіх ілюстратараў дзіцячых кніг, работы якога неаднаразова ўдастойваліся самых высокіх узнагарод. Ён з'яўляецца мастаком-афарміцелем казак Оскара Уайльда «Шчаслівы прынц» і «Волат-эгаіст», п'есы Карла Гальдоні «Слуга двух гаспадароў», кітайскай народнай казкі «Залатая сякера». Атрымаў Гран-пры ЮНЕСКА за ілюстрацыі да кнігі «Чароўныя казкі», а сёлета на Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі» быў названы лепшым ілюстратарам года. Падчас нашай гутаркі мастак распавёў, чаму ён не любіць казкі Андэрсена, чаго не хапае маладому пакаленню ілюстратараў, а таксама паразважаў пра тое, якія праблемы існуюць у сучасным беларускім кнігавыданні.



**— Кніга «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля» Анатоля Бензерука, за афармленне якой былі прызнаны лепшым ілюстратарам 2012 года, прысвечана Грунвальдскай бітве. Ці з'яўляецца народна-гістарычная тэма асноўнай у вашай творчасці?**

— Вядома, я выконваю ілюстрацыі і на іншыя тэмы. Але ўсё ж такі прыкладна восемдзесят працэнтаў твораў, якімі займаюся, адносяцца да разраду народнай міфатворчасці. Я вельмі люблю народныя казкі. Яны дастаткова хуліганскія, у іх ёсць грубая фактурная весялосць, за якую хочацца зачапіцца і разам з героямі прайсці да самага канца.

**— Калі ўжо загаварылі пра казкі, то распавядзіце, калі ласка, што вы чыталі ў дзяцінстве.**

— Казкі Туве Янсан пра мумітроляў і Сельмы Лагерлёф «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі». Ды і наогул усімі казкамі Янсан і Лагерлёф я зачытваўся. А больш за ўсё мне не падабаліся казкі Ханса Крысціяна Андэрсена. Яны падаваліся фальшывымі, пастановачнымі, абавязкова павінны былі выціскаць слязу. У іх, лічу, цалкам адсутнічае элемент народнасці. Хоць цяпер і кажуць, што казкі гэтыя хрысціянскія і з дапамогай іх можна выхоўваць дзяцей, асабіста я як не любіў іх раней, так і не люблю.

**— Напэўна, вы з самага дзяцінства звярталі больш увагі на ілюстрацыі?**

— Безумоўна, як, мяркую, і любое дзіця. Мне наогул вельмі пашанцавала з дзіцячай літаратурай. Мая мама за сваё жыццё сабрала больш як дзесяць тысяч кніг, сярод якіх значную частку складала добра ілюстраваная дзіцячая літаратура. Менавіта таму яшчэ ў дзяцінстве я пазнаёміўся з лепшымі ўзорамі балгарскай, румынскай, нямецкай, скандынаўскай, французскай і амерыканскай кніжнай ілюстрацыі. Да гэтага часу памятаю кніжку «Тры аповесці пра Малога і Карлсана», праілюстраваную шведскімі мастакамі. Калі я, яшчэ малы, разгортваў гэтую кнігу, то ўвесь свет для мяне пераставаў існаваць! Дык вось задача прафесійнага ілюстратара, на мой погляд, якраз і заключаецца ў тым, каб «зацягнуць» чытача ў чароўны свет падзей, апісаных у кнізе.

**— Ці толькі ілюстратара?**

— Канечне, не. Любая кніга грунтуецца на трох элементах — тэкст, макет і ілюстрацыя. У ідэале ўсе тры павінны быць адназначна прафесійнымі. Што ж да ілюстрацыі, тут недастаткова быць проста выдатным тэхнічным выканаўцам, важна яшчэ намацаць той жывы рух сюжэта, які і будуць дапаўняць малюнкі.



**— Вы памятаеце першую праілюстраваную кнігу? Якой яна была?**

— Вядома, памятаю! Маленькая кніжка ў мяккай вокладцы, звязаная з легендамі паходжання назваў розных беларускіх вёсак і гарадоў. На жаль, не памятаю аўтара, і выданне гэтае ў мяне не захавалася, але менавіта яно стала кропкай, пасля якой я пачаў займацца менавіта ілюстраваннем кніг.

**— Вы выкладаеце дысцыпліны, звязаныя з маляваннем, у некалькіх універсітэтах, працуеце з вялікай колькасцю студэнтаў, якія займаюцца выяўленчым мастацтвам. Чым, на вашу думку, адрозніваецца маладое пакаленне ілюстратараў ад старэйшага?**

— Гэта складанае пытанне, якое павінна быць глыбока прааналізавана. Але калі казаць павярхоўна, то, зразумела, адрозненне ў тэхналогіях. Сёння студэнты валодаюць каласальным арсеналам тэхнічных сродкаў для дасягнення сваіх мэт. І ў гэтым ёсць як плюсы, так і мінусы. Вось, напрыклад, я пачаў займацца ілюстраваннем у той час, калі не было камп'ютараў. Уся вёрстка рабілася ўручную. Гэта быў вельмі цяжкі і працаёмкі тэхналагічны працэс. Кніга стваралася па пэўных законах, якія павінен быў ведаць кожны. Цяпер веды пра гэтыя законы губляюцца, таму што большую частку тэхналагічнага працэсу за чалавека робіць машына. І калі раней, у часы майго навучання, выкладчыкі і студэнты гаварылі на адной мове, то цяпер мне, каб гаварыць са студэнтамі, трэба гэтай мове іх яшчэ навучыць! Але гэта цалкам заканамерны працэс, яго трэба прыняць.

**— Што вы можаце параіць ілюстратарам, якія толькі пачынаюць сваю кар'еру?**

— Для пачатку трэба абзавесціся вельмі добрымі матэрыяламі для малявання. Далей варта выпрацаваць сваю індывідуальную творчую манеру. Але для гэтага трэба паспрабаваць як мага больш розных тэхнік. Вельмі важна прымушаць сябе рабіць тое, чаго яшчэ не ўмееш. Такім чынам ты будзеш развівацца, паляпшаць сваю тэхніку, ды і сам працэс малявання для цябе не стане чымсьці руцінным. Ну і, відавочна, трэба як мага больш займацца тым, чым падабаецца займацца. Рана ці позна гэта не толькі выведзе на новы ўзровень разумення формы і прасторы, але і прынясе заслужаныя падарункі лёсу, як, напрыклад, мяне малюнкі адной «прывялі» да мастацкага рэдактара выдавецтва «Полымя», ён і прапанаваў праілюстраваць тую самую кнігу, з якой пачалася мая кар'ера.

**— Якія цяжкасці вы адзначылі б у беларускім кнігавыданні?**

— На жаль, невялікі працэнт кніг у Беларусі выдаецца па-беларуску. Калі будзем так рухацца і далей, то з часам можам страціць сваю родную мову. Каб такога не адбылося, нам трэба выпускаць як мага больш кніг па гісторыі Беларусі, пра беларускіх вучоных, географаў, філосафаў і мастакоў. Гэта частка агульнай культуралагічнай адукацыі насельніцтва. Бо ў кожнага народа павінны быць свае героі, ён павінен ведаць сваю мову і радзіму. Таксама трэба павышаць узровень паліграфіі. Дзіцячую літаратуру варта выдаваць толькі на добрай паперы, з прыцягненнем таленавітых мастакоў і аўтараў. Бо дзеці прыйдуць нам на змену: якімі людзьмі мы іх выхаваем, з такімі і давядзецца пасля сутыкнуцца.

**Ганна ЗАПЛЕЧНІКАВА,**
**малюнкі Уладзіміра Даўгялы з кнігі Анатоля Бензерука «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля».**

# Праз душу да сэрца

Зборнік вершаў і паэм Мікалая Караля прапаноўвае чытачу вандроўку па бездарожжы мілых краявідаў, дзе адчуваецца подых Нёмана, запрашае на вясёлае застолле, а таксама перадае боль страты і пульсаванне незагойных ран. Гэта і споведзь — перад Богам, перад сабою, перад іншымі…

Балючай тэмай паэта застаецца вайна. Але паэма «Востраў» — твор, не падобны да іншых. Тут слёзы выступаюць на вачах, нават калі ўсмешка яшчэ не паспела сысці з вуснаў. Галоўны герой, дзед Сцяпан, распавядае пра сваё жыццё. Гэта і першыя сустрэчы з будучай жонкай Ганнай, і клопаты маладой сям'і, і няўдалыя спробы сябе ў якасці прадаўца, пасля якіх пра далейшую кар'еру прадпрымальніка можна было забыцца. А потым — вайна… Сцяпан, як Васіль Цёркін, — герой, які не хоча медалёў. Паводле яго меркавання, няма геройства ў тым, што малады павінны абараняць Радзіму: гэта абавязак кожнага. Паэма атрымала назву «Востраў», бо Сцяпан паступова застаецца адзіным прадстаўніком ваеннага часу, яго нібыта «абмывае» наступнае пакаленне, якое не ведае вайны.

Звяртаецца Мікалай Кароль у сваёй кнізе і да іншых тэм. Бязмежная любоў да роднай зямлі, праца ў калгасе, нязддзейснелась мар, духоўная сіла і моц простай вясковай жанчыны. У цэлым жа варта падкрэсліць, што творы Мікалая Караля — для тых, хто ганарыцца сваёй краінай, хто не складае зброю, а працягвае змагацца, хто ўмее марыць пра светлае, хто адчувае сэрцам.

**Вікторыя ТРЫПУЦІНА**




*Мікалай Кароль. Дарога за небакрай. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013.*

## 100 фактаў пра «Вянок»

…зборнік «Вянок» М. Багдановіча прысвечаны памяці Сяргея Палуяна, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, які заўчасна пайшоў з жыцця.

…«Вянок» быў надрукаваны дзякуючы фінансавай дапамозе княгіні Магдалены Радзівіл.

…у знак удзячнасці Магдалене Радзівіл, фундатарцы выдання кнігі, на вокладцы быў змешчаны герб «Лебедзь» роду Завішаў, з якога паходзіла мецэнатка.




…Магдалену Радзівіл можна лічыць хроснай маці «Вянка», таму што менавіта ў яе жорнаўскім маёнтку, у вёсцы Вяззе, маленькі Максім упершыню пачуў беларускую мову.

…першая рэцэнзія на зборнік вершаў М. Багдановіча была напісана Антонам Луцкевічам і надрукавана ў газеце «Наша Ніва» (№ 8 ад 21 лютага 1914 года).

…сваю ўдзячнасць першаму рэцэнзенту М. Багдановіч выказаў у вершы.

…Антон Луцкевіч так ацаніў вершы «Вянка» М. Багдановіча: «…як у летні гарачы дзень у крышталына чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца нашае цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча».

…беларускі пісьменнік Максім Лужанін пісаў: «Багдановічаўскі «Вянок» здаецца непераўзыйдзеным узорам цэласнасці лірычнай кнігі».

…цыкл «Мадонны» зборніка вершаў М. Багдановіча прысвечаны Ганне Рафаілаўне Какуевай, яраслаўскай знаёмай паэта.

…Вацлаў Ластоўскі даў адзінаму зборніку М. Багдановіча назву «Вянок» без ведама аўтара.

**Падрыхтавала Ірына МЫШКАВЕЦ**

# Когда гендер имеет значение

Каждый слышал, что действия, которые мы совершаем руками, развивают мышление. Отсюда пристальное внимание педагогов детских учреждений к «мелкой моторике» рук своих подопечных. Но сколько можно, скажите, делать одно




и то же: рисовать, лепить, клеить аппликации? Здорово, что современные методики детского (впрочем, взрослого тоже!) творчества предлагают новые и необычные «рукотворные» практики — очевидно, с тем, чтобы наш мозг работал так же неординарно и нестандартно. Среди новых книг есть несколько, посвящённых именно этой благородной задаче. Издание ***«Зверюшки из пряжи, бисера, бумаги»*** содержит точные инструкции, подробные схемы и красочные фотографии, которые помогут в создании забавной и, конечно же, уникальной домашней коллекции. Свою «ферму» или «зоопарк» можно создать собственноручно: ёжиков и жеребят, котят и собак, барашков и слоников, тигрят, поросят и других симпатичных существ, непохожих на стандартные «магазинные»! Понадобится для этого совсем немного: пряжа, крючок, игла, наполнитель (любой: вата, песок и т. д.), ножницы, бусины (удовольствие их выбирать вообразите сами), для работ из бумаги — клей, карандаш, циркуль. Выбор бумаги сейчас огромный — наконец-то можно им воспользоваться! Подготовив всё необходимое, можно приступать к творчеству, полезному во всех отношениях: не только для развития моторики и мышления, но и для украшения интерьера детской комнаты.

Для любителей творчества исключительно из бумаги и при этом без клея — две гендерно ориентированные книги: ***«Оригами для девочек»*** и ***«Оригами для мальчиков»***. В самом деле: у девочек и мальчиков — разные игрушки и, в принципе, разные жизненные задачи и интересы. В детских садах на занятиях по творчеству редко учитывают эту закономерность — так давайте руководствоваться ею







дома! Девочки сделают сумочки, шкатулки для украшений, сами украшения... Мальчикам интереснее гондолы, самолетики, автобусы, шлемы самураев и т. д. Есть, впрочем, нейтральные варианты, подходящие для обоих полов: юла, вертушка, мобильник, портмоне, открытки, сюжеты которых опять же гендерно ориентированы. Всем этим юные художники могут порадовать своих близких, а друг друга — «валентинками». Если, конечно, захотят. Последнее — забота родителей: чтобы их чадо не «зависало» в компьютерных играх, они не пожалеют усилий, чтобы разрекламировать полезную книжку-игрушку и сами не упустят случая «поиграть», следуя её подробным пошаговым инструкциям.

**Татьяна СТУДЕНКО**

# Лентяи тоже готовят

Да! Салаты и супы, пасту и десерты, а не только омлеты и бутерброды. Они достигают этого благодаря эксклюзивным (исключительно для лентяев!) советам наиновейших кулинарных книг, например, ***«Кухня для лентяев»***. Авторы ни в коем случае не хотели кого-то обидеть или, чего доброго, предложить суррогаты «на скорую руку» из залежалых продуктов. Наоборот: авторы хотят помочь рационально и вкусно питаться людям, у которых преобладают более широкие, чем кухня, интересы и заботы. Наверняка книга пригодится подросткам, вынужденным творить на кухне самостоятельно, в то время как их трудолюбивые




родители полагаются на общепит. Да и отнюдь не все пенсионеры практикуют рецепты из «Лизы» или передачи «Званый ужин»! Одним словом, мы имеем дело с книгой, нужной в каждой семье!

Даже гениальные повара, может быть, не знают всех секретов, отныне доступных Лентяю. К примеру, он посвящен в секрет «быстрых четвёрок»: в коробочках, бутылках, банках и тюбиках — основные соусы, пасты, специи, способные придать пикантность любому блюду и удовлетворить самого притязательного гурмана (среди лентяев, убеждена, они встречаются чаще, чем среди «кухонных пчёлок»). Просвещённый лентяй знает секрет приготовления четырёх волшебно универсальных домашних соусов, приготовляемых собственноручно: цитрусового, бальзамического, горчичного, медового. Осведомлён о тайне четырех быстрых салатных заправок: с зелёным луком, с хреном, с горчицей, с имбирём. Ему доступно знание четырёх песто — заправок к пасте! И, наконец, быстрое и качественное приготовление четырёх обычных супов и четырёх супов-пюре! Лентяй-гуру учитывает, что среди зелени самый быстрый и от этого не менее полезный вариант — руккола: сама природа позаботилась о её удобном разделении на мелкие листочки — нужно только вымыть. Впрочем, Лентяй ценит и зелёный салат, тоже неприхотливый в обработке и пригодный для очень многих блюд.

Даже беглого введения в эту рациональную гастрономическую практику достаточно, чтобы проникнуться уважением к Лентяю. А ведь ещё ни слова не было сказано о тортилье и мясе в вине, курице с лимоном и четырёх картофельных гарнирах, а также четырёх соусах к грилю!.. Заметьте, Лентяй не готовит помногу, впрок, эти на неделю. Все свои лаконично-изысканные блюда предпочитает творить на... двоих. Хотела бы я оказаться второй в этой компании!

**Анна СКОЛЬЦОВА**

# Будут помнить...

Всеми любимый актёр, писатель, драматург и автор известной телепередачи «Чтобы помнили...» Леонид Филатов — ещё и блестящий поэт, чей литературный талант ярче всего раскрылся в афоризмах и песенном жанре. Именно эта сторона дарования народного любимца представлена в книге ***«Самые остроумные афоризмы и цитаты»***.

Первое, что бросается в глаза, — «интернациональный» подход автора: большинство афоризмов и песенных текстов связаны с известными шедеврами и героями мировой литературы. Робин Гуд, Три Мушкетёра, Голый Король, Лисистрата, Золушка, Гамлет — привычные лица и сюжеты в юмористической «обработке». При этом характерно, что Леонид Филатов, в отличие от многих других своих коллег, творцов интертекста, не потешается над первоисточниками, а внимает их драматизму. При этом, конечно, переосмысливает их «на новый лад», подавая в деликатно-разъяснительном контексте:

*Я рассказал историю в надежде,*
*Что всяк уловит*
*скрытый в ней намёк,*
*А вот самодовольному невежде*
*Он будет, вероятно, невдомёк.*
*Невежда скажет:*
*сказка неплохая,*
*Но смысла я не смог в ней*
*отыскать!..*
*...А смысл в том,*
*что спутник запуская,*
*Самих себя не надо запускать.*




Особый раздел — песни к спектаклям. Читая их, испытываешь самое искреннее желание увидеть и услышать оригинал. Тексты выдержаны в традиции мюзикла — еще один неожиданный штрих к творческому портрету автора. Человек с трудной жизнью, он творил в жизнерадостном ключе, подчеркнуто оптимистичном. Песня, шутка, взрыв эмоций и смыслов — символом такого искусства запомнится личность Леонида Филатова. И ещё — символом независимости. Песенку Мартина Идена он мог бы спеть и о себе:

*Я не пойду на компромисс*
*Спокойствию в угоду...*
*Простите, мисс,*
*Простите, мисс,*
*Но я люблю свободу!..*

**Лея ХАШИМБА**

# Казнь или убийство?

*«Государство имеет право убивать своих граждан. Граждане же не обладают таким правом по отношению друг к другу. Человеку всё равно, отрубит ли ему голову палач или задушит сосед-психопат, но как в юридическом, так и в социологическом плане разница колоссальна. Палач поддерживает общественный порядок, в то время как сосед-убийца нарушает его. И именно слово* ***порядок*** *в данной связи является ключевым».*

А вы когда-нибудь задумывались о существовании этого так называемого «порядка»? А вот **Лотте и Серен Хаммеры** в книге **«Зверь внутри»**, которая вышла при поддержке ООО «Харвест», всерьёз занялись освещением такого, казалось бы, нелепого негласного закона любого государства. Настолько всерьёз, что, видимо, за необузданным увлечением облекли этот небольшой, незримый нашими умами закон в 511 страниц сюжета, словно вылепленного из папье-маше. И дело вовсе не в том, что этот закон не заслуживает подобной чести. Ещё как заслуживает! Дело в персонажах, событиях, сюжетных коллизиях, которые выполнены несколько кривовато. Читателям, воспитанным в лучших традициях Артура Конан-Дойля и Агаты Кристи, этот роман, по части основных основных законов построения хорошего детектива, к сожалению, покажется пародией. Однако приятно удивляет основная идея, вложенная Хаммерами в свое произведение. Лотте и Серен задают вопрос о том, почему только государство имеет право решать, кто прав, а кто виноват, и карать виноватых? Главный злодей книги (хотя вопрос о том, злодей ли он вообще, так навсегда и останется открытым) в детском возрасте неоднократно подвергался насилию со стороны отца. Уже повзрослев, «злодей» решил отомстить и защитить всех детей, у которых на это никогда бы не хватило смелости. Он изобрёл удивительный план, основанный на подрыве *порядка*, который, кстати, был поддержан многими. В некоторых случаях они оправдывали этого злодея, иногда даже помогали ему.




А всё потому, что цели и намерения «злодея» были поистине благими. И он многих смог в этом убедить. *«Он как-то спросил, верю ли я, что горстка людей может изменить мир, отстаивая свои убеждения, и сам же дал ответ — только такие люди и меняют мир»*. Когда же это наступит? Злодей всё рассчитал до мелочей и сделал всё от себя зависящее. И, пожалуй, единственное, чего он сделать так и не смог, — смириться с этой нерушимой разницей между казнью и убийством. Разницей в том, что *«казнь — законна, а убийство — нет»*.

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Выданні Скарыны і каляндар

Доктар Францыск Скарына ў 1517 (1516) — 1519 гг. выдаў у Празе Чэшскай «Бівлию Руску», а ў Вільні на радзіме ў 1523 (1522, паводле студзеньскага стылю календара) — 1525 гг. — «Малую падарожную кніжку» і «Апостал». У Празе Скарына ў прадмове да Біблії, дзе размова вядзецца пра ўсе кнігі, гаварыў: «О сихъ книгах всея Библии… розделы вократце положих», а ў Вільні — аб «всех книгахъ Бівліи Ветхаго и Новаго закона мною на русъки язык выложеныхъ». Аднак не кожная з гэтых кніг дайшла да нас, што ўскладняе высвятленне таго, у якім парадку яны выдаваліся.

У прадмове да кнігі «Плач Еремининъ» выдавец указаў: пра Ерамію «шырей написалъ во прѢдословии своемъ на книги пророчества его». Вынікае, што «Прароцтвы Ераміі» былі выдадзены як асобная кніга. На яе рабіў спасылкі ў «Псалтыры». Аднак ні яна, ні кнігі прарокаў не выяўлены. Скарына ж пісаў, што «межи иными пророки светьими выложихъ и Данила… пророка… на руский язык зуполне». Менавіта на іх спасылаўся ў канкардансах пры «Псалтыры» і ў іншых месцах, у прыватнасці, на кнігу «Пророка Ωсіи». Маюцца прамыя звесткі пра выданне Скарынам і кніг «Параліпеменон», «Ездры», «Нееміі», «Тавіта», «Малых пракрокаў», «Макавейскіх», пэўнасць чаго пацвярджаецца наяўнасцю спіскаў з гэтых першадрукаў. Тое, што апошнія нібыта не былі выдадзены, бо іх змест «у меншай меры адпавядаў асветніцкай праграме першадрукара», гучыць надумана.

Расійскі археограф А. Я. Віктараў, які лічыў Скарыну праваслаўным, запатчаткаваў у 1867 г. дзве жывучыя ідэалагемы: Псалтыр — першае пражскае выданне (6 жніўня) «Бівліі рускай»; выданне Псалтыра першым абумоўлена рэлігійнымі і навукова-асветнымі патрэбамі русаў.

Чаму археограф вырашыў, што ўсходнеславянскі першадрукар жыў не па праваслаўным календары, паводле якога новы год пачынаўся 1 верасня і адпаведна выстройваўся парадак першадрукаў з вераснёвых па жнівеньскія?

Тагачасны каляндар адрозніваўся ад сучаснага. Як царкоўны, так і грамадзянскі год адлічваўся (а на Русі Маскоўскай, якой прадвызначаліся віленскія выданні, пачаў адлічвацца, паводле рашэння Маскоўскага сабора 1492 г.) ад пачатку верасня, у якім, меркавалася, адбылося стварэнне свету. Такім чынам, жнівень, калі выдаваўся «Псалтыр», быў 12-м месяцам кніжнага года. Гэту ідэю Скарына запісаў у падзагалоўку да «Сaборніка»: «Последование церковного собрания вьселетьняго от месеца сепьтеврия до месеца августа по вьставу Ерусалимьское церкви». «Кніжнае» вызначэнне месяцаў знайшло адлюстраванне ў пасляслоўі перакладчыка да кнігі «Суддзяў»: «Выдана и выложена… По летехъ нарожения нашего спасителя Тысеща Пятистехъ и девятинадесяти ⁘ Месеца Книжънаго Декаврия ⁘ Дня Пятого да десять Буди Богу хвала ⁘ Во вЂки векомъ ⁘ Аминь ⁘».

У «Саборніку» з віленскага «Апостала» Скарына пачынае «двенадесять месец» паводле менавіта вераснёвага стылю грамадзянскага і царкоўнага календара: «Месець сентеври ⁘ Начало индикту». Пачатак кожнага года ў 15-гадовым цыкле-індыкце супадае з агульнапрынятым календаром. Што можа лепш пацвярджаць, якой сістэмай датавання кіраваўся першадрукар?

Гэтыя каляндарныя дадзеныя непасрэдна пацвярджаюцца практыкай — датаваннем афіцыйных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага ў Віленскай дзяржаўнай канцылярыі. Атрымліваючы так званую *progmatica sanctio* — дзяржаўнае пацвярджэнне, дакумент набывае афіцыйны статус, а не дыпламатычнае гучанне, як лічаць некаторыя.

Зразумела, што калі ў дзяржаве афіцыйна прыняты пэўны стыль календара, то за доказамі маштабнага факта гісторыкам не трэба далёка хадзіць. Нашы ж даследчыкі-скарыністы, г. зн. пераважна гісторыкі, умудраліся ігнараваць такую рэальнасць. Так памылка «асела» ў шматлікіх акадэмічна-энцыклапедычных публікацыях. Да прыкладу, калі справа датычыць дакументаў, дзе прымяняецца сістэма і паняцце «індыкт» для пазначэння часу (года) той ці іншай падзеі. Вядома, што ён ($x$) у гэтым 15-гадовым цыкле адпавядаў каляндарнаму ($y$), паводле формулы: $x$ = астачы ад ($y$ + 3) : 15. Дакументы, спраўленыя ад чэрвеня да кастрычніка ўключна, павінны адносіцца да розных гадоў, бо з верасня пачынаецца новы наступны год, а значыць, паказчык года ў індыкце павінен павялічвацца і павялічваўся на адзінку.

Дарэчы, для таго, каб перавесці дату на сучаснае летазлічэнне, г. зн. ад Нараджэння Хрыстова, неабходна ад даты з дня стварэння свету адлічыць 5508, калі падзея мела месца паміж 1 студзеня і 31 жніўня, ці 5509, калі паміж 1 верасня і 31 снежня.

Насуперак таму, што ў спецыфічна-каляндарным выданні, якім з'яўляецца «Паскалія», Скарына прытрымліваўся прынятай на Русі сістэмы летазлічэння і календара ад верасня да жніўня, яго дату месяцовага зацьмення 16 кастрычніка 1530 года аўтар энцыклапедычнага артыкула «Астранамічныя звесткі ў выданнях Ф. Скарыны» «папраўляе» на дату 16.10.1529, прычым не агаворвае суадносны календарных стыляў, а тлумачыць нейкімі «асаблівасцямі вылічэння астранамічных сутак у той час».

Але ж тады і Канцылярыю Вялікага Княства Літоўскага, і парыжскую Сарбону належыць папракнуць у рэтраградстве, бо яны, як і палова Еўропы, пачыналі новы год, адлік 15-гадовага Індыкту, а таксама цыкл індыктаў у Індыктыёне з верасня. А *propas*, прывязка падзей да календара паводле «прагрэсіўнага прынцыпу», спрычынілася да таго, што факт нараджэння будучага народнага паэта ў перыяд летняга сонцастаяння, якое яго дзяды Іван і Ануфрый святкавалі на Купалле ў чэрвені, перанеслі на 7 ліпеня.

Навязванне чытачу «свайго» календара пад выглядам таго, што стыль адпавядае «правільнаму», «цывілізаванаму», «еўрапейскаму», «навуковаму» і г. д., з'яўляецца эклектычнай мадэрнізацыяй, што прыводзіць да скажэння гісторыі. Існуе шмат неабачлівых «разгадак», дзе, па-першае, не ўсведамляецца вераснёвы каляндар першадрукара, а па-другое, кнігі «Другі закон», «Плач Ераміі» (датаваныя 1519 г. — **У. А.**) падаюцца як недатаваныя, каб зрабіць «адкрыццё»: «Трэцяя група пражскіх выданняў Скарыны друкавалася... у такой паслядоўнасці: «Другі закон», «Выхад», «Быццё», «Левіт», «Лічбы», «Плач Ераміі». Паколькі такую колькасць кніг немагчыма было надрукаваць у канцы 1519 г. пасля кнігі «Суддзяў» (15.XII.1519), амаль усе яны, акрамя кнігі «Быццё», недатаваны. Бясспрэчна, што большасць гэтых недатаваных выданняў была надрукаваная ў 1520 г.». Калі прызнаць, што за датаванай снежнем (чацвёртым месяцам 1519 года) кнігай «Суддзяў» заставалася яшчэ 8 каляндарных месяцаў таго ж 1519 года, то часу акурат хапіла на выданне ў тэмпе працы першадрукара дзвюх датаваных 1519 годам кніг «Другі закон» і «Плач Ераміі» і трох недатаваных, якія, аднак, уклініліся паміж імі ў гэтыя тэрміны.

Такім чынам, пачаткам Скарынавага кнігадрукавання павінна лічыцца ў сістэме студзеньскага календара дата 10 верасня 1516 года, адпаведная 10 верасня 1517 года па вераснёвым стылі, які сёння не ўжываецца ў грамадзянскай практыцы, але захоўваецца ў царкоўным календары. Пачатак беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання пасоўваецца ўперад на цэлы год.

Паводле такой метады датуюцца 1516-м годам Прытчы Саламона і Ісус Сірахаў, а 1517-м — Ісус Навін, 1518-м — Суддзяў. Іншыя невядомыя выданні таксама патрабуюць сваёй календарнай нішы паводле тагачаснай храналогіі.

Аўтары-гісторыкі Энцыклапедыі Брытаніка не грашаць супраць ісціны, калі пішуць: «...некаторыя кнігі Біблії ўжо былі надрукаваны па-беларуску, пачынаючы з кнігі Іава, якая была перакладзена з Вульгаты і з царкоўнаславянскай версіі». Яны, безумоўна, маюць на ўвазе Скарынаў пераклад. Украінская гістарычная школа таксама карэктная. Напрыклад, П. Папоў у 1924 годзе пісаў, што Скарына выдаў перш за ўсё кнігі Біблії філасофскага зместу — Іава, Саламонавы прыпавесці, Сіраха, г. зн. зусім слушна папярэднім лічыць выданне пачатку 1517 года «Книги Светого Иωва» (10 верасня), а не «Псалтыра» (6 жніўня). Нямецкім вучоным, на жаль, здраджвае дакладнасць у апошнім выданні, калі яны давяраюцца сваім беларускім і англійскаму аўтарам.

Наконт даверлівасці прывядзём яшчэ адзін прыклад.

У Скарынавых выданнях шырока ўжываюцца знакі «трыкірый» ⁘ і «дыкірый» ⁚, якія сведчаць, наколькі ўзважана і ўважліва ставіўся выдавец да паліграфічнай арганізацыі тэкстаў і аздобы змястоўна абумоўленымі мастацкімі сродкамі. Наватарскі знак ⁘ (ужываў яшчэ Фёоль) найбольш часта выкарыстоўваўся ва ўсім ансамблі кнігі. Яго належыць выдзеліць у асобную класіфікацыю побач з ініцыяламі, віньеткамі, застаўкамі і гравюрамі. Ён навукападобна кваліфікуецца або як «знак двукроп'я з асаблівай рыскай», або як «элемент наборнага арнаменту», або як «літы наборны арнамент накшталт матыву ўмоўнай птушкі». Аўтараў уводзіць у зман паліграфічная недасканаласць: тлустая фарба залівае дробныя дэталі друкарскай формы і таму на адбітках яны часта ператвараюцца ў плямы, якія прымаюцца за кропкі. Аднак не ўсюды. Фактар тлустасці не перашкодзіў чытачу экзэмпляра «Псалтыра», які сёння знаходзіцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу (VIII. 2. 62), дамаляваць ад рукі адсутны на лісце рё менавіта трыкірый з капарэтам ⁘, а не пляму.

Знак жа ўяўляе з сябе сукупнасць з трох рознаўзроўневых крыжыкаў (тройца) і ўвогнутай рыскі («капарэт» — карабель Хрыстоў, у якім таму, хто прагне збавення, належыць перабываць; яго выява часта сустракаецца на праваслаўных крыжах). Усечаная форма знака ⁚ («дыкірый») сімвалізуе двуадзіную сутнасць Хрыста. Знакі з кожнай старонкі гавораць аб праваслаўным сімвалізме і характары выдання. Вывы ўжываюцца (з рэдкімі выключэннямі) прама для аддзялення перыядаў і больш значных частак тэксту, цэлых раздзелаў, загалоўкаў, аргументаў (анатацый раздзелаў кніг, «прибавлений», «надписаний»), калантытулаў, пасля лічбаў пагінацыі, фаліяцыі і сігнатуры. Знак ⁘ ужываецца ў павернутым на 90 градусаў ⁘ і ў перавернутым на 180 градусаў ⁘ і на 270 градусаў ⁘ выглядзе. Ен бярэцца па некалькі экзэмпляраў запар для ўтварэння арнаментальных фігур у радок тыпу стужкі-пасмы, трохкутніка або для выпісвання кругакола і да т. п. геаметры. Усечаная форма ⁚ нярэдка бачна пасярэдзіне тэксту, а таксама пры афармленні глосаў «на боцехъ» ці ў падрадкоўі. Усё робіцца з мэтай змястоўнага, эстэтычнага і функцыянальнага забеспячэння першадрукаў.

Усведамленне рэальнай храналогіі вызначае сапраўдныя даты юбілейных святкаванняў нацыянальнага кнігадрукавання, адлічваючы іх паводле прынятага сёння стылю календара не з 1517 года, а з 10 верасня 1516 года. Датаванне гістарычных падзей сучасным спосабам парамі лічбаў (напр. 06.08.1517) патрабуе ўдакладнення адносна каляндарнага стылю. Сёлета Дзень пачатку Скарынавага кнігадрукавання варта было адзначаць 24 верасня (10 верасня па старым стылі).

**Уладзімір АГІЕВІЧ**

# Агмень яе душы

Вечарына «Шчаслівай долю назаві…», прысвечаная 70-годдзю з Дня нараджэння беларускай паэтэсы, перакладчыцы, грамадскай дзеячкі Ніны Мацяш адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. У якасці арганізатара выступіў таксама Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

Ніна Іосіфаўна нарадзілася 20 верасня 1943 г. у вёсцы Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Бярозаўскую сярэднюю школу, пасля вучылася на факультэце французскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. У 1973 — 1977 гадах працавала выкладчыцай нямецкай мовы ў Белаазёрскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1971 года. Аўтар больш як дзясятка кніг вершаў і паэм, драматург, сцэнарыст, перакладчык…

Падчас вечарыны памяці сябры паэтэсы, вядомыя беларускія творцы — «браты» і «сястрычкі», як называла іх сама Ніна Мацяш, — з вялікай радасцю ўспаміналі каралеву паэзіі. Цёплы і міласэрны чалавек, яна заўсёды любіла жыццё, людзей і кнігі, якіх багата было ў яе асабістай бібліятэцы. Нягледзячы на хваробу, якая прыкавала паэтэсу да інвалiднай каляскі, Ніна Іосіфаўна працягвала радаваць кожнаму дню — кожнаму сонечнаму промню, новаму вершу.

Так, падчас імпрэзы сябры і паплечнікі Ніны Іосіфаўны ўспаміналі, што на радзіме ў Доме культуры часта адбываліся вечары, прысвечаныя яе творчасці. Заўсёды былі перапоўненыя залы. Нягледзячы на тое, што мерапрыемствы доўжыліся па 3 — 4 гадзіны, усе з замілаваннем і без аніякай стомленасці на тварах слухалі вершы Ніны Мацяш. Кнігі выходзілі маленькімі тыражамі — усяго па 100 асобнікаў, — але гэта не перашкаджала ёй быць вядомай на ўвесь свет.

Сяброўка і зямлячка Ніны Іосіфаўны Раіса Баравікова прыгадала: «Пасля чарговага сходу літаратурнага аб'яднання ў Бярозаўскім раёне мы паехалі да Ніны. На стол паставілі вялікую міску з мочанымі антонаўкамі, размова наша цягнулася доўга… Прыемна было знаходзіцца побач з Нінай Мацяш. У 2008 г. мы святкавалі 60-годдзе з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц, у першы дзень ездзілі ў музей, у другі адбылася вечарына. Я не казала Ніне нічога, бо на той момант ёй было вельмі цяжка — на жаль, хвароба прагрэсавала. Калі прыехала на вечарыну, даведалася, што Ніна ўжо тут. Яна пакрыўдзілася, што ніхто ёй нічога не сказаў, а яна б і ў музей прыехала. Ніна Мацяш была мужнай жанчынай. Кожны новы дзень яе быў подзвігам. Гэты чалавек быў злучаны з энергіяй, якая даецца звыш не кожнаму».

На жаль, Ніны Іосіфаўны не стала 19 снежня 2008 года. Але яе вершы, пераклады, п'есы, кнігі жывуць і па сённяшні дзень.

**Наталля УСЕНКА,**
**фота прадастаўлена Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Я. Коласа НАН Беларусі.**



*Літаратурны крытык, празаік Ала Сямёнава дзеліцца ўспамінамі пра Ніну Мацяш.*

# Партрэтная энцыклапедыя

Маладая дзяржава паўнавартасна развіваецца толькі тады, калі свабоду дзеянняў у ёй атрымліваюць знаўцы сваёй справы, патрыёты, асветнікі. Так адбылося ў 1920-х гадах з Беларуссю, якая атрымала новае гістарычнае імя, а Мінск з губернскага горада ператварыўся ў сапраўдны асяродак творчых ідэй, мастацкіх выставак. Тут праявілі свае здольнасці як беларусы, так і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, атрымаўшы магчымасць без абмежаванняў займацца любімай справай.



З таго часу захавалася шмат мастацкіх твораў, прысвечаных папулярным палітыкам, дзеячам культуры, навукоўцам, вайскоўцам. Натуральна, што краіна павінна ведаць сваіх герояў! Чым больш іх адлюстравана на старонках перыёдыкі, кніжнай графікі, плакатах, тым больш папулярнымі і паважанымі становяцца яны самі, а таксама іх ідэі і дасягненні.

Мікалай Пашкевіч, выхаванец Віцебскага мастацкага тэхнікума і Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, займаўся графічным афармленнем часопіса «Чырвоная Беларусь». Ён стварыў два графічныя шэдэўры, прысвечаныя Якубу Коласу: паказаў паэта-класіка за рабочым сталом у натхнёным роздуме. Партрэты, зробленыя з натуры, перадаюць выразныя рысы аднаго з пачынальнікаў маладой беларускай літаратуры XX стагоддзя.

Прадстаўнік Варшаўскай мастацкай школы Павел Гуткоўскі адлюстраваў першага камісара Беларусі А. Чарвякова. Ён не змякчаў характарыстыкі палітыка: са старонак газеты «Звязда» на гледача пазірае упэўнены, рашучы лідар. Кантрасты светлага і цёмнага падкрэсліваюць складаны палітычны шлях чалавека, якому было наканавана ўзначаліць маладую краіну. У такім ключы мастак адлюстроўвае і свайго калегу А. Марыкса, які працаваў у Драматычным тэатры Беларусі. Зачароўвае выгляд маладога маэстра — трубка, хвалі цёмных валасоў, дапытлівы позірк. На падставе гэтага партрэта можна меркаваць пра эстэтычныя густы тых часоў.

Выхаванец Кішынёўскага мастацкага вучылішча, а таксама Парыжскай Акадэміі мастацтваў Абрам Бразер пакінуў нам выдатны партрэт Юдэля Пэна — класіка віцебскага жывапісу. Лаканічным контурам ён адлюстраваў вытанчаны профіль сталага майстра ў высокім капелюшы. Гэта пачатак серыі партрэтаў вядучых творцаў таго часу, якія пасля былі беспадстаўна забытыя і нават дыскрэдытаваныя. Абраму Бразеру належыць і профільны партрэт Янкі Купалы, намаляваны да 50-гадовага юбілею народнага паэта. Гэта драматычны вобраз творцы, які перажывае за далейшы лёс беларускай культуры.

Разам з А. Бразерам на палітычныя пасяджэнні Народнага Камісарыята хадзілі маляваць выступоўцаў Якаў Кругер, Сяргей Каўроўскі, Аляксандр Ахола-Вало і Абрам Забораў. На падставе зробленых накідаў яны стваралі для папулярнай перыёдыкі серыю партрэтаў славутых палітычных дзеячаў, падкрэслівалі іх выразныя рысы, характар, настрой. Мастацтва партрэта ў дадзеным выпадку кампенсуе недахопы дакументальных матэрыялаў пра людзей таго часу.

Сяргей Каўроўскі, выхаванец Маскоўскага мастацкага вучылішча, стварыў псіхалагічна дакладны партрэт сакратара ЦК ВКП(б)Б М. Галадзеда — у стане максімальнай канцэнтрацыі перад прыняццем адказнага рашэння. Гэта адчуваецца ў засяроджаным позірку, сціснутых вуснах. Падобным па характары атрымаўся вобраз сакратара ЦК КП(б)Б Г. Васілевіча, а таксама іншых значных партыйных дзеячаў.

Выдатны партрэтыст Якаў Кругер — выхаванец Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў — таксама ўзбагачаў партрэтную энцыклапедыю свайго часу. Яму належыць партрэт пісьменніка Рыгора Мурашкі — адказнага сакратара часопіса «Бальшавік Беларусі». Гэта, бадай, адзіны вобраз пралетарскага празаіка, які захаваўся. Падобную значнасць мае і партрэт паэта Анатоля Вольнага, створаны выхаванцам Ленінградскай Акадэміі мастацтваў Валерыем Дваракоўскім. У карціне перададзены настрой таго часу: канфлікты, надзеі, расчараванні і неаслабная вера ў родную Беларусь.

Творчая скарбонка беларускага партрэтнага мастацтва не можа быць поўнай без твораў згаданых мастакоў. Іх месца — у мастацкіх калекцыях і энцыклапедыях. Без партрэта асобы няма поўнага ўяўлення пра эпоху. Думаецца, што і сёння патрэтны летапіс Беларусі — вялікая мастацкая задача. Балазе, ёсць каму яе выконваць.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**

# Наперад, глебаўцы!

На мінулым тыдні мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» прадставіла выстаўку «Profectus» дыпломных работ выпускнікоў Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава.

На адкрыццё прыйшло нямала гасцей, выкладчыкаў каледжа, заслужаных дзеячаў культуры, а таксама аўтары работ і іх аднагрупнікі. Уступным словам адкрыла экспазіцыю дырэктар мастацкай галерэі Наталля Барсукова: «Выстаўка такога кшталту праводзіцца ўпершыню. Гэта сапраўды ўнікальная падзея ў нашым супрацоўніцтве з каледжам».

Слова *profectus* азначае «рух наперад». Быць майстрам сваёй справы, не спыняцца на дасягнутым, стварыць новае. Дыпломная работа — гэта першы крок, які робіць у будучыню кожны выпускнік.

На экспазіцыі прадстаўлена больш як сорак дыпломных прац выпускнікоў. Прэзентуюцца розныя віды выяўленчага мастацтва: пейзажы, партрэты, скульптуры, жанрава-побытавыя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць распрацоўкі календароў, фірмовых стыляў, інтэрактыўных навучальных дапаможнікаў.

Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя А. К. Глебава — найстарэйшая ў краіне сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова ў галіне мастацтва, якая стала цэнтрам падрыхтоўкі спецыялістаў сярэдняга звяна ў галіне выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і дызайну. Галоўнай годнасцю «глебаўкі» заўсёды было захаванне лепшых традыцый, спалучэнне высокага выканальніцкага майстэрства з вынікамі творчага эксперыменту.

— Сёлета мы выпусцілі больш як пяцьдзясят чалавек — мастакоў, скульптараў, спецыялістаў у галіне мастацкай апрацоўкі дрэва, дызайнераў. Рыхтуючы гэтую выстаўку, імкнуліся паказаць усе работы, таму што кожная заслугоўвае ўвагі, — адзначае Аляксандр Шантаровіч, дырэктар Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава.


*Надзея Бука «Валошкі», 2013 г.*

За 66 гадоў плённай творчай працы ўстанова адукацыі выхавала шмат таленавітых жывапісцаў, скульптараў, графікаў, майстроў манументальна-дэкаратыўнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастацтвазнаўцаў, сярод якіх ёсць і ўдастоеныя ганаровага звання «Народны мастак Беларусі». Навучэнцы каледжа неаднаразова станавіліся лаўрэатамі і прызёрамі конкурсаў, якія праводзіліся ў Беларусі, Літве, Польшчы, Расіі.

**Соф'я ШТУЦІНА**

# Мсціслаў-2013: сустрэча з класікай

Музычныя творы самых розных аўтараў, якія бліскуча ўвасобілі беларускую нацыянальную ідэю ў музыцы, прадстаўлены на сёлетнім фестывалі мастацтваў імя народнага артыста, кампазітара і фалькларыста Беларусі Мікалая Чуркіна. Арганізатарамі выступілі Магілёўскі аблвыканкам і Мсціслаўскі райвыканкам, Заслужаны калектыў "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі" пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі прафесара Міхаіла Фінберга.

«Маленькімі літарамі мы малюем вялікія старонкі беларускага музычнага мастацтва пачатку XX стагоддзя, — падкрэсліў маэстра Фінберг. — Паўстагоддзя творы Мікалая Чуркіна не гучалі на Беларусі, пакуль наш калектыў не даў ім новае жыццё».

— Імя М. Чуркіна стала знакавым для беларускага музычнага свету, — дадае доктар мастацтвазнаўства прафесар Вольга Дадзіёмава. — З-пад яго пяра выйшлі першыя беларускія буйнамаштабныя кампазіцыі нацыянальнага зместу — опера «Вызваленне працы» і сімфаньета «Беларускія малюнкі». Створаныя у пачатку 1920-х гадоў у Мсціславе, яны адкрылі новыя шляхі фарміравання беларускай музычнай прасторы, у якой амаль сто гадоў доўжыцца разгортванне крэатыўных ідэй славутага майстра. Прыехаўшы ў Беларусь пасля працы ў Арменіі, Грузіі, Расіі і краінах Прыбалтыкі, М. Чуркін працягваў лепшыя традыцыі сусветнага мастацтва і перш за ўсё свайго куміра П. Чайкоўскага.

Найлепшыя старонкі беларускай музычнай спадчыны прадставілі камерныя калектывы аркестра ў дзвюх праграмах — «Канцэрт-апавяданне «Мсціслаў — калыска беларускай музыкі» і «У промнях таленту Мікалая Чуркіна». У выкананні ансамбляў флейтыстаў, трубачоў, кларнетыстаў, струннага квартэта і струннага аркестра прагучалі творы М. Чуркіна, А. Туранкова, Л. Абеліёвіча, М. Аладава, Р. Вагнера, а таксама іх славутых папярэднікаў — Д. Голанда, С. Манюшкі, М. Агінскага. Вакальны ансамбль аркестра пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай падрыхтаваў праграму «Беларускае харавое мастацтва: мінулае і сучаснасць» з твораў айчынных кампазітараў розных эпох.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# З паўналеццем, «Вежа»!

XVIII міжнародны тэатральны фестываль «Белая Вежа» прайшоў у горадзе над Бугам.

## ПРАВІЛЫ І ЎМОВЫ

Брэсцкі форум даўно зрабіўся тэатральнай візітнай карткай не толькі абласнога горада, але і ўсёй Беларусі. Сёлета на яго было даслана больш як 200 заявак, але ў канчатковую праграму ўвайшло толькі 22 спектаклі з 13 краін. Гэтым разам дырэкцыя на чале з Аляксандрам Козакам, кіраўніком Брэсцкага тэатра драмы, пайшла на эксперымент і вырашыла адмовіцца ад журы. Запрошаныя крытыкі з Беларусі, Літвы, Расіі і Эстоніі абіралі пераможцаў у намінацыях «Лепшая мужчынская роля» і «Лепшая жаночая роля». Усе тэатралы маглі галасаваць за пераможцу ў намінацыі «Выбар гледачоў». А ўладальнік Гран-пры вызначаўся саветам фестывалю, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі аргкамітэта «Вежы», СМІ, а таксама крытыкі.

Афіша форуму была сфарміравана па некалькіх накірунках: міжнародная праграма, Нацыянальная тэатральная прэмія на «Белай Вежы» (паказы ажыццёўлены пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь) і польскі тэатр на «Белай Вежы» (пры падтрымцы Генеральнага консульства Польшчы ў Брэсце, Інстытута Польскага ў Мінску і Інстытута Адама Міцкевіча ў Варшаве). А цяпер — больш падрабязна пра самыя адметныя спектаклі.

## ЛЕПШАЕ

Адной з «разынак» міжнароднай праграмы сталі «Антыцелы» Тэатра-фестывалю «Балтыйскі дом» (Санкт-Пецярбург), якія сёлета перамаглі на расійскай «Залатой масцы» ў намінацыях «Лепшы драматычны спектакль малой формы» і «Выбар крытыкаў». Гісторыя забойства студэнта-антыфашыста Цімура Качаравы паказана па ўсіх правілах дакументальнага тэатра. У аснове спектакля — тэксты інтэрв'ю з маці Цімура і яго дзяўчынай, з забойцам і маці апошняга, следчым, сведкамі. Да таго ж кінарэжысёр Міхаіл Патласаў, для якога «Антыцелы» сталі першай работай у тэатры, выкарыстаў метады кінамантажу і спрацэцыраваў інтэрв'ю з героямі на экран. Стваральнікі спектакля падводзяць гледачоў да ўсведамлення, што вінаватымі ў забойстве з'яўляюцца як грамадства, так і ўсе, каго закранулі падзеі. Нездарма дзяўчына Цімура кажа, што «гвалт заўжды нараджае гвалт. Калі ты неяк дзесьці <…> паўдзейнічаў гвалтам на знешнае асяроддзе, яно <…>, так ці інакш, адкажа». Таму калі частка гледачоў перад спектаклем трактуе гісторыю праз катэгорыі «каты» — «ахвяра», дык пасля яго ўсё падаецца не такім адзначным. Вольга Бялінская, якая сыграла ролю Маці забойцы, была ўганаравана дыпломам «За лепшую жаночую ролю».

Стары нацыянальны тэатр імя Хелены Маджыеўскай у Кракаве прапанаваў гледачам мультымедыйны спектакль «Партрэты польскіх каралёў». Наватарства пастаноўкі выявілася ў форме прадстаўлення матэрыялу. Сцэна амаль заўсёды была закрытая экранам. На ім транслíравалася дзеянне, якое адбывалася на той жа сцэне, у падвалах і калідорах тэатра, на вуліцы і адразу ж здымалася на камеру. Завязкай сюжэта стала спроба Ганса Франка, нямецкага намесніка на акупіраванай польскай тэрыторыі падчас Другой сусветнай вайны, абвясціць сябе польскім каралём. Тады рэальныя польскія каралі — ад Мешкі, які прыняў хрысціянства, да Станіслава Аўгуста Панятоўскага — пачынаюць перашкаджаць гэтаму. Рэжысёр Кшыштаф Гарбачэўскі ўздымае праблемы часу, памяці, вечнасці ў дачыненні да выдатных асоб. Нездарма адна з гераінь кажа, што ў кожнага з каралёў ёсць два целы: першае, як у кожнага з людзей, мусіць памерці, другое — бессмяротнае, бо памяць пра такіх асоб захоўваецца. Праз пастаноўку праходзіць ідэя прадвызначанасці гісторыі і марнасці намагання паўплываць на яе. Таму і памкненне Франка «перапісаць» гісторыю асуджана на правал. Спектакль перамог у намінацыі «Лепшы тэатральны эксперымент».

Адметнасцю сёлетняй «Белай Вежы» стаў першы візіт у Беларусь знакамітай Школы драматычнага мастацтва, у свой час заснаванай легендарным рэжысёрам Анатолем Васільевым. Яго вучань Канстанцін Мішын прадставіў спектакль «Мцыры». Тэатральная інтэрпрэтацыя аднайменнай паэмы Лермантава была вырашана праз стыль physical theatre, які спалучае кантактную імправізацыю, баявыя мастацтвы і танец. Знешне «Мцыры» падаўся вельмі эфектнай, стыльнай пастаноўкай, чыя харэаграфія (дарэчы, пастаўленая з выкарыстаннем бамбукавых палак, камянёў і нават сярпоў) выклікала захапленне і адпавядала рэжысёрскім задачам. Але паэтычны тэкст існаваў асобна, абсалютна не гучаў і ў нечым нават перашкаджаў агульнаму ўспрыманню. Зрэшты, сам К. Мішын, які не толькі ставіў спектакль, але і ўвасобіў вобраз Мцыры Зрынутага, атрымаў дыплом «За лепшую мужчынскую ролю».


Фота з сайта www.sdart.ru

Сцэна са спектакля «Мцыры».

Сваё трыумфальнае шэсце па міжнародных фестывалях прадоўжыла «Пікавая дама» Гродзенскага абласнога тэатра лялек, адзначаная ў Брэсце дзвюма ўзнагародамі: дыпломамі ў намінацыях «За лепшы спектакль малой формы» і «Выбар гледачоў» (у гэтай жа намінацыі гледачы таксама вылучылі прадстаўленне славацкага тэатра марыянетак «Геркулес, або заваёва пекла»). Спектакль Алега Жугжды скарыў і публіку, і спецыялістаў лёгкасцю, іранічнасцю, інтэлектуальнасцю. А ўвогуле — постмадэрнісцкай інтэрпрэтацыяй Пушкіна і Чайкоўскага.

Нарэшце, Гран-пры атрымала пастаноўка «Лэдзі Макбет» Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Літвы. Спектакль Альгірдаса Латэнаса стаў класічным прыкладам інтэрпрэтацыі шэкспіраўскай спадчыны праз традыцыі і фармальныя пошукі літоўскай рэжысуры.

## АДНЫМ СКАЗАМ

Сцісла згадаю пра некаторыя іншыя спектаклі. З беларускай праграмы найбольшы водгалас у аўдыторыі выклікала крыху сентыментальная пастаноўка «Аднакласнікі» Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Яна прывабіла зваротам да сучаснай айчыннай драматургіі (п'еса Ю. Чарняўскай), актуальнасцю і вастрынёй акрэсленых праблем (адзінота чалавека ў камп'ютарным свеце, стаўленне грамадства да аўтызму, на які пакутуе адзін з герояў).

На форуме адбыўся паказ дзвюх вулічных пастановак. «Сальта мартале» Тэатра Стрэфа Цішы з Познані было прысвечана знішчэнню культурных каштоўнасцей падчас Другой сусветнай вайны. А «Іоў» Львоўскага акадэмічнага духоўнага тэатра «Уваскрашэнне» распавядаў гісторыю біблейскага героя Іова. Цікава, што апошні спектакль пастаўлены па п'есе Караля Вайтылы (Папы Рымскага Іаана Паўла ІІ).

Асобныя пастаноўкі былі адрасаваныя дзіцячай аўдыторыі. Самае моцнае ўражанне пакінуў спектакль «Балтыка, або Сабака на ільдзіне» Муніцыпальнага тэатра мініяцюр з Гданьска. Гэта кранальная гісторыя сабакі, які выратаваўся пасля дрэйфу па моры. Пастаноўка прымусіла нават дарослых суперажываць галоўнаму персанажу (дарэчы, увасобленаму праз сапраўды фантастычную і абаяльную лялька).

## СПРОБА ПАДСУМАВАННЯ

Каштоўнасць «Белай Вежы» бачыцца ў тым, што фестываль дае магчымасць убачыць лепшыя калектывы з Расіі і Польшчы, чым вельмі высока ўздымае планку мастацкіх патрабаванняў. Акрамя таго, адлюстроўвае надзвычай шырокі, сапраўды ўнікальны «зрэз» сусветнага тэатральнага працэсу. А яшчэ форум спрыяе ўсведамленню простай ісціны: мы — еўрапейцы, на якіх моцны ўплыў зрабіла расійская тэатральная культура. У той жа час убачаны тэатральны прадукт з краін Азіі і Афрыкі быў пабудаваны менавіта на нацыянальных, а зусім не на еўрапейскіх мастацкіх прынцыпах.

Нядаўна ў СМІ прайшло апытанне, прысвечанае стаўленню да такога кірунку ў развіцці сучаснага расійскага тэатра, як «новая драма» (у Беларусі яна прадстаўлена творамі Паўла Пражко, Дзмітрыя Багаслаўскага, Мікалая Рудкоўскага). Амаль усе кіраўнікі айчынных тэатраў не выявілі з гэтай нагоды вялікага энтузіязму. Хтосьці сцвярджаў, што не бачыць у «новай драме» мастацкай каштоўнасці. Іншыя супрацьпастаўлялі яе сусветнай ці беларускай класіцы. Адным з нешматлікіх выключэнняў стаў Брэсцкі тэатр драмы ў асобе Аляксандра Козака, які не толькі дэклараваў цікавасць да «новай драмы», але і паяднаў словы са справай: калектыў прадставіў на форуме пастаноўку паводле п'есы Паўла Пражко «Ураджай». Зразумела, «новая драма» — не панацэя ад усіх праблем сучаснага тэатра. Але зварот да яе сведчыць, што брэсцкі калектыў не цураецца эксперымента і імкнецца ўлічваць апошнія тэндэнцыі ў развіцці сучаснага мастацтва. Без самой «Белай Вежы», якая спрыяе развіццю айчыннага тэатра, такая сітуацыя была б немагчымай.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**


Фота Роберта Сэнкі

# Эксперыментальныя жмуркі

У тэатры беларускай драматургіі прэм'ера — спектакль кыргызстанскага рэжысёра Шаміля Дыйканбаева «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» па творы Дзмітрыя Багаслаўскага.

Свежы тэатральны подых адчуваецца з самага пачатку. На сцэне — нічога лішняга. Дакладней, адзіная лаўка. У глыбіні — люстраное акенца, у якім гледачы могуць пры жаданні ўбачыць сябе. А на падлозе — дробны белы пясочак. Рэчыўны мінімалізм і сэнсавы максімалізм… Удала аформленая сцэнічная прастора не толькі ўключае ў сюжэт, але і не адцягвае ўвагу ад яго. Вось хата, напоўненая ўспамінамі галоўнага героя Аляксандра. Вось і сам Аляксандр: вясёлы і сумны, рухомы і задуменны. Шукае ў мінулым адказ на пытанне: ці любіў яго нябожчык бацька? Д. Багаслаўскі акрэсліў сваю п'есу як сон у дзвюх дзеях, рэфлексію ўрыўкамі, самакаранне і ўнутранае самаразбурэнне. Увогуле, нічога ад класічнага лінейнага сюжэта не засталося! Хісткасць межаў паміж рэальнасцю і нерэальнасцю нагадвае дзіўныя творы Кафкі. Цікава, але, мяркуючы па рэакцыі залы, цяжка для ўспрымання.

У сваю чаргу, рэжысёр імкнуўся данесці гэтую новую форму да гледача. Кожнае абуджэнне Аляксандра — пранізлівы гук. Дарэчы, усе гукі вельмі добра падабраныя. Час ад часу чуецца рыпенне, бацька-нябожчык Дзмітрыч нагадвае сыну: «Калодзеж пачысціць трэба, занядбаў ты яго зусім». Гэтыя словы ўспрымаюцца метафарычна.

Усе акцёры на працягу спектакля дзьмуць у гліняныя свісцюлькі. Старэйшыя сёстры Аляксандра ніяк не могуць зразумець, дзе іх мінулае, карані, хата. Яны ходзяць па сцэне з завязанымі вачыма, мацаюць паветра і дзьмуць. «Жмуркі» атрымоўваюцца філасофскія.

Разнастайнымі гукамі, музычнай гульнёй і спевамі рэжысёр імкнецца да асэнсавання вечнай тэмы — бацькоў і дзяцей. Сэнс раскрываецца і візуальна. Па-першае, пясок. Да гэтага сімвала звяртаюцца парознаму: Дзмітрыч прыносіць усё новыя порцыі яго на сцэну, ім мыюць рукі, чысцяць старыя вёдры (калодзеж), яго п'юць (!)… Менавіта пяском Аляксандр «трымае» сваіх сясцёр. Ён ад безвыходнасці хоча, як расліны, пасадзіць іх у хаце, каб яны не збеглі, бо шчасце заўсёды побач. Па-другое, дакладныя, сэнсава напружаныя мізансцэны. Па-трэцяе, візуальнаму ўспрыманню дапамагае пластыка. У ёй няма эксперыментальнага — толькі сціпласць, але эмацыянальная і сэнсава глыбокая. І, безумоўна, акцёры. Іх склад падабраны, здаецца, ідэальна. Максім Брагінец змог сыграць складаную ролю Аляксандра так, быццам для яго яна і была напісана.

Ёсць у пастаноўцы і не зусім зразумелыя моманты. На спектаклі палілі занадта шмат. Безумоўна, і ў тэксце п'есы героі паляць, але ў тэатры гэта замінае. Засталася незразумелай канцоўка спектакля. У драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага яна, бясспрэчна, светлая: усе заходзяць у хату. А ў рэжысёра пастаноўкі — эфектная, але змрочная. У поўнай цемры засвяцілася акно ў глыбіні сцэны — і за ім блукаюць жанчыны ў белай вопратцы з павязкамі на вачах. Уражвае! Але ж чакайце… Няўжо яны да вытокаў так і не прыйшлі? Гэта, магчыма, сумная рэжысёрская інтэрпрэтацыя. А можа быць — на жаль — эфект дзеля эфекту…

Нягледзячы на гэтыя два «горкія» кавалачкі, у рэжысёра Шаміля Дыйканбаева атрымаўся добры эксперыментальна-сучасны торт, у якім кожны пласт (і гукавы, і візуальны, і акцёрскі) вельмі смачны. Шкада, што многія гледачы не рассмакавалі гэты ласунак. Выкарыстаем словы Дзмітрыча: «Тады хадзі галодны».

**Паліна ПЛАТАВА**

# Размова з дасведчаным аптымістам

**Ягор Конеў, дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры Інстытута журналістыкі БДУ, вядомы як тэатральны драматург, цяпер стаў і кінаадкрывальнікам Палесся для дзяцей. Разам з бацькам ён напісаў кінасцэнарый да аповесці Янкі Маўра «Палескія рабінзоны», па якім ужо зняты фільм.**

**— Ягор Фёдаравіч, раскажыце, калі ласка, пра творчую дынастыю бацькі і сына.**

— Мая прага да мастацкасці — заслуга бацькі, пісьменніка і кінадраматурга Фёдара Конева. Дзеля агульнага інтэлектуальнага развіцця ён заахвочваў мяне ў юначыя гады да эксперыментаў у прозе, а пазней падтрымліваў на пачатку творчага шляху галоўным чынам карыснымі парадамі. Хоць сам быў і застаўся рускамоўным літаратарам, мне раіў вучыцца пісаць па-беларуску. Ну, а я, вядома, пагаджаўся, бо калі бацьку не слухацца, то тады каго?

Ён ухваляў маю цікавасць да журналістыкі, а потым вітаў пераход да выкладчыцкай дзейнасці ў БДУ. Ён жа параіў мне дзесяць гадоў таму, калі ўвесну 2003-га Міністэрства культуры абвясціла конкурс сцэнарыяў, падумаць пра экранізацыю «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра. Мне ідэя прыйшлася даспадобы. Сцэнарый я напісаў, але конкурс завяршыўся безвынікова, паколькі не пакапаціліся пра фінансаванне.

У 2005 годзе Беларускі Відэацэнтр планаваў запусціць серыял паводле «Палескіх рабінзонаў». Я зноўку падаў сцэнарый і яшчэ раз творчы працэс спыніўся праз адсутнасць фінансавання.

У 2008-м падаваў сцэнарый на кінастудыю «Беларусьфільм». Як мне патлумачылі, кінастудыі патрабаваліся сюжэты пра гарадское жыццё.


Фота з сайта www.belarusfilm.by

*Новыя «палескія рабінзоны».*

Гэта пераканала мяне ў тым, што «Палескія рабінзоны» наўрад ці дачакаюцца ўвасаблення на кінаэкране. Тады, не марнуючы часу, я перапісаў сцэнарый у аповесць, якая на пачатку 2010 года была апублікавана ў часопісе «Маладосць».

Раптоўна да экранізацыі «Палескіх рабінзонаў» праявіў цікавасць у мінулым годзе новы генеральны дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» Алег Сільвановіч. Прычым звярнуўся з такой ідэяй наўпрост да Фёдара Ягоравіча Конева, якога даўно паважаў як кінадраматурга. Бацька, не вагаючыся, пагадзіўся і ўзяўся за новы варыянт сцэнарыя. Вядома, запрасіў і мяне далучыцца, што я ахвотна і зрабіў.

У выніку атрымаўся сцэнарый, які істотна адрозніваўся ад майго папярэдняга, але вельмі спадабаўся рэжысёру Сяргею Сычову. Той зрабіў з маім бацькам аж тры карціны — «Асабісты інтарэс» у 1980-х, «Я памятаю...» і «Пакуль мы жывыя» ў 2000-х. Сцэнарый набыў двайную назву — «Цудавостраў, або Палескія рабінзоны». Ён не капіруе дзеянне аповесці Янкі Маўра, але абапіраецца на матывы знакамітага твора. У сцэнарыі з'явіўся трэці галоўны персанаж — зразумела, дзяўчына, бо каму цікавае кіно, дзе дзейнічаюць адны хлопцы! Адысея сучасных падлеткаў на выспе сярод балот адбываецца паралельна з прыгодамі герояў аповесці Янкі Маўра. А на самім востраве знаходзіцца выйсце ў паралельны свет, куды патрапіць лёгка, а вось назад вярнуцца куды больш складана!

Эстэтам-кінаманам і аматарам франшызы «Піла» такія сюжэтныя павароты, магчыма, прыйдуцца недаспадобы. Аднак жа фільм разлічаны не на іх, а на дзіцячую аўдыторыю. Для дзяцей сёння здымаецца мала фільмаў на ўсёй прасторы колішняга СССР, а «Беларусьфільм» некалі здабыў сабе славу не толькі ваеннымі карцінамі, але найперш дзіцячымі. Таму я лічу досыць перспектыўным напрамак, які абраў для кінастудыі яе цяперашні генеральны дырэктар.

Дарэчы, у працэсе стварэння сцэнарыя мы з Фёдарам Ягоравічам мусілі ўлічваць і тое, што некаторыя рэаліі класічных «Палескіх рабінзонаў» ужо зусім не суадносяцца з цяперашняй экалагічнай культурай. Напрыклад, персанажы Маўра ў парадку самавыжывання выкалупвалі чарапаху з панцыра, каб вырабіць місу, зрывалі іголкі з вожыка, каб змайстраваць булаву, якой потым выбілі вока мядзведзю. Напрыканцы дваццатых гадоў мінулага стагоддзя такія паводзіны былі натуральнымі для вясковых школьнікаў. Цяпер такое дзікунства хіба што ў перадачах амерыканскага тэлеканала *National Geographic* убачыш, дый тое ў падкарэкціраваным выглядзе. Мы абодва сур'ёзна сумняваліся, ці варта такое відовішча дэманстраваць сучасным дзецям. Таму пра літаральную адаптацыю аповесці Маўра ад самага пачатку працы гаворкі не ішло.

**— Гледачы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ведаюць вас як аўтара цікавых п'ес. На вашу думку, як будзе развівацца сучасны тэатр? У чым бачыце яго апірышча?**

— Спадзяюся, што ў нас будуць найперш фінансаванца пастаноўкі беларускіх аўтараў — як класікаў, так і сучасных. Ініцыятыва Прэзідэнта, агучаная ім на адкрыцці аднаўленага будынка Купалаўскага тэатра, з майго пункту гледжання, вельмі слушная. Нашым тэатрам трэба больш актыўна пераходзіць на самафінансаванне. У выніку яны будуць часцей ставіць новыя спектаклі. Далібог, і на беларускую п'есу стануць часцей звяртаць увагу. Тым больш калі такую ўвагу падмацуюць датацыямі.

**— Чаго нестае сучаснай беларускай драматургіі?**

— Сцэнічнага ўвасаблення. Паводле маіхназіранняў, беларускія тэатральныя рэжысёры часам грэбуюць айчыннымі творамі. Хтосьці — падсвядома, а хтосьці і не таячыся: хочацца ж бачыць на афішы сваё імя побач з імем Шоу або Куні, узвысіцца такім чынам ва ўласных вачах. Аднак больш карысна ў такім выпадку працаваць са сваёй самаацэнкай. Менавіта адсюль і вынікае правінцыялізм, у якім многія мінскія тэатральныя дзеячы часта самі сябе вінавацяць. Яго нельга пазбыцца ў адзін момант! Патрабуецца доўгатэрміновыя намаганні для таго, каб беларуская драматургія не пачувалася падчаркай у беларускіх тэатрах. Бо калі нацыянальная годнасць будзе ўвасабляцца на тэатральнай сцэне, то яна будзе ўкараняцца і ў свядомасці тэатральных гледачоў, а потым, бы кругі на вадзе ад кінутага каменя, і ва ўсім грамадстве.

Мара пра гэта і змушае мяне адчуваць сябе дасведчаным аптымістам.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

# Кларнет, Сінатра, дождж…

**У Мінск прыехаў таленавіты, неардынарны расійскі рэжысёр Уладзімір Панкоў. Яго спектакль «Тэрыторыя кахання» (паводле п'есы Майкла Крыстафера «Дама чакае, кларнет грае») — лепшы прыклад сучаснага сінкрэтычнага тэатра, які, на жаль, не так часта можна пабачыць на беларускай сцэне.**


Фота з сайта www.kino-teatr.ru


Фота з сайта www.kino-teatr.ru

Пачынаецца ўсё вельмі сціпла. У глыбіні сцэны квітнее ружа, далікатна-ружовая (ва У. Панкова і самая маленькая дэталь адыгрывае вялікую ролю). Побач — зусім звычайная шафа, стол, крэслы, посуд. Неяк усё да немагчымасці проста, някідка, нават не стылёва. Мы прызвычаіліся бачыць у беларускіх тэатрах класічную строгасць дэкарацый, дакладную выверанасць размяшчэння і каляровай палітры. А тут… Тут рэжысёра не цікавіць знешні эпатаж, ён атакуе не нашы вочы — наш слых! І атака атрымоўваецца моцная! Прычым гукі не накідваюцца ўсім цяжарам адразу. У. Панкоў віртуозна гуляе музыкай. Нездарма ён праславіўся аўтарскім жанрам *Soundrama*, які робіць музыку галоўнай гераіняй пастановак. Спектакль «Тэрыторыя кахання» мае некалькі музычных бакоў.

Па-першае, роля Кларнетыста (Яўген Бархатаў), які звязвае герояў, іх думкі і пачуцці ў адзінае цэлае. Галоўная гераіня Яна (Алена Якаўлева) распавядае Кларнетысту гісторыі свайго кахання. Кларнетыст слухае і разам са сваім інструментам суперажывае, падтрымлівае, пратэстуе. Ён «рэагуе» і на палюбоўнікаў: часам па-мужчынску нешта ім раіць (безумоўна, не словамі, а гукамі), часам не ўхваляе іх паводзіны. Кларнетыст — своеасаблівае люстэрка ўзаемаадносін, якія раскрываюцца ў спектаклі.

Ёсць тут і ідэальна падабраны музычны лейтматыў: легендарная песня Фрэнка Сінатры *My way*. У самых кранальных момантах, калі Яна па-філасофску ацэньвае мінулае, гучыць знакамітая мелодыя: «У мяне за ўсё жыццё было трое мужчын. Ды не, вядома, іх было больш, але толькі трое з іх нешта для мяне значылі. І да гэтага часу значаць».

Але не трэба думаць, што ва У. Панкова ёсць толькі жывы кларнет ды адзіная песня-козыр. Яго спектакль захапляе яшчэ і геніяльнай музыкай. Эніа Марыконэ — «Прафесіянал», Андрэй Пятроў — «Службовы раман»… Тэатр У. Панкова можна паставіць у гэты шэраг. У час дзеі да музыкі далучаюцца гукі кропель дажджу… А ў мізансцэнах выкарыстоўваюцца стоп-кадры — вельмі кінематаграфічна! Нават акцёры тут спяваюць! Тры мужчыны, грацыёзна седзячы на крэслах, выконваюць для Яе рэп! Не трэба палохацца гэтага эклектызму: усё выглядае гарманічна. Апошняе захоўваецца і з дапамогай момантаў поўнага маўчання. Хвіліны цішыні кантрастуюць з музыкай, яшчэ больш яе вылучаюць. Калі дадаць да гэтай музыкальнасці гульню таленавітых акцёраў, сціплыя дэкарацыі, яркія дэталі (успомнім «ружовасць» — на касцюмах усіх герояў маленькія ружы каля сэрца), то атрымаецца знакавы спектакль.

Ці ёсць нешта падобнае ў нашым беларускім тэатры? Толькі спектакль Купалаўскага тэатра «Вяселле». Праўда, трэба дадаць, што ставіў яго той жа Уладзімір Панкоў. І як вынік — вялікія гастролі Купалаўскага па Еўропе. Рэпертуарным тэатрам не да эксперыментаў: грошы зарабляць трэба. А як жа іх заробіш, калі глядач ставіцца да наватарства з недаверам? Вось і атрымліваецца, што ў антрэпрызы магчымасцей эксперыментаваць значна больш. А рэпертуарным тэатрам застаецца эксперыментаваць напалову…

**Паліна ПЛАТАВА**

# Шэдэўры праваслаўнага іканапісу

Нацыянальны мастацкі музей прадставіў міжнародную выстаўку «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы» ў межах святкавання 1025-годдзя Хрышчэння Русі.



*«Троіца», пачатак XVI ст.*

Адкрыццё супала з яшчэ адным юбілеем — 35-годдзем архіпастырскага служэння Высокапраасвяшчэннейшага Філарэта, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі на зямлі Белай Русі. Экспазіцыя ікон з'яўляецца арганічным і традыцыйным працягам першай на постсавецкай прасторы юбілейнай выстаўкі 2008 года «Праваслаўная ікона Расіі, Украіны, Беларусі», якая з вялікім поспехам прайшла ў Маскве, Кіеве і Мінску. У ёй бралі ўдзел вядучыя музеі трох краін.

Гэта новы арыгінальны культурны праект. Яго мэта — паказаць як своеасаблівасць, так і роднасць духоўных каранёў славянскіх народаў. У экспазіцыі было прадстаўлена каля 100 твораў канца XIV — пачатку XIX стагоддзя са збораў дзевяці музеяў чатырох краін: Расіі — Дзяржаўнай Траццякоўскай



*«Раство Хрыстова», XVI ст.*

галерэі і Музея рускай іконы, Украіны — Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага запаведніка, Сербіі — Нацыянальнага музея ў Бялградзе, Беларусі — музейных фондаў аддзела старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук і Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі. Царкоўна-гістарычны музей Беларускай Праваслаўнай Царквы, створаны ў маі гэтага года ў Мінску, перадаў для экспанавання богаслужэбнае адзенне, рэліквіі, шэраг прадметаў асабістай набожнасці Мітрапаліта Філарэта.

Вобраз Ісуса Хрыста звязвае іконы з розных краін, упершыню зведзеныя ў такім складзе для ўвасаблення ідэі саборнасці праваслаўнага свету. Асноўныя падзеі жыцця Хрыста паўстаюць у розных іканаграфічных варыянтах. Кожная з іканапісных школ мае асаблівы нацыянальны каларыт. Велічныя вобразы першых кананізаваных святых і паслядоўнікаў духоўнага вучэння — Барыса і Глеба, Сергія Раданежскага, святога Мікалая Цудатворца, адлюстраваны рускімі ізографамі. Іканапісная школа Кіева-Пячэрскага манастыра выпрацавала сваю сістэму навучання і прымала выхадцаў з Беларусі, Сербіі, Расіі на працягу XVII — XVIII стагоддзяў. Беларускі іканапіс прадстаўлены творамі, характэрнымі для пэўных рэгіёнаў: Брэстчыны, Магілёўшчыны, Віцебшчыны. Гэта іконы, стагоддзямі намоленыя ў святых месцах, цудам ацалелыя ў часы багаборніцтва і ваенных ліхалеццяў.

На выстаўцы наведвальнікаў чакала сустрэча з шэдэўрамі праваслаўнага іканапісу — Дэісусны рад XV ст. з Траццякоўскай галерэі, «Узнясенне Ісуса Хрыста» канца XVII ст. з Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага запаведніка, «Праабражэнне» XV — XVI стст. з Нацыянальнага музея ў Бялградзе, «Спас Уседзяржыцель» 1678 г. майстра Георгіуса са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Выстаўка ікон Расіі, Сербіі, Украіны і Беларусі — знакавая падзея ў гісторыі айчыннай культуры. Цесная ўзаемасувязь мастацкіх традыцый, якая спрадвеку склалася ў праваслаўнай культуры славянскіх народаў, дазволіла кожнаму з іх захаваць духоўнае адзінства, не згубіўшы нацыянальнай адметнасці, нягледзячы на гістарычныя катаклізмы, палітычныя і канфесійныя супярэчнасці.

**Таццяна ШЫМУК**

# Галерэя вершаў і карцін

Свае першыя крокі ў жывапіс мастачка і паэтэса Галіна Худніцкая зрабіла ў Наваполацкай мастацкай школе.



*«Валошкі. Прыцягненне», 2013. Пастэль.*

Працягвала вучобу на мастацка-графічным факультэце Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. З 1996 года прафесійна займаецца батыкам. Працуе ў розных тэхніках, але часцей яе ідэі знаходзяць увасабленне ў чароўнай акварэльнай тэхніцы свабоднага роспісу, найбольш сугучнай душы мастачкі. Удзельнічае ў рэгіянальных, рэспубліканскіх і міжнародных мастацкіх выстаўках. У паэтычных вобразах, напоўненых рамантыкай і прыгажосцю, раскрываецца свет яе твораў.

Асаблівае месца ў творчасці мастачкі займае «Пушкінская серыя», выкананая ў тэхніцы роспісу па тканіне. Гэтую серыю складаюць цёплыя восеньскія пейзажы Пушкінагор'я, карціны-ілюстрацыі да паэзіі Аляксандра Пушкіна і пленэрныя працы ў розныя поры года. Сёння Г. Худніцкая з вялікай цікавасцю працуе ў тэхніцы пастэлі.

Мастачка заявіла пра сябе і ў паэзіі. Кожны яе верш — яшчэ адна карціна, напісаная не фарбамі, але мовай вобразаў і пачуццяў. Варта адзначыць, што Галіна Худніцкая ўжо дзесяць гадоў з'яўляецца ўдзельніцай народнага літаратурна-музычнага аб'яднання-салона «Крылы» горада Наваполацка. Увасабленне прыгажосці і гарманічнае адлюстраванне формаў прыроды — адметныя рысы яе творчасці.

**Галіна СТАШКЕВІЧ**



*«Ліпавая алея», 2013. Пастэль.*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2641
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 26.09.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3911
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686